**В.І. Варанец**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА
## прафесійная лексіка

Дапаможнік для студэнтаў
лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага
факультэтаў

Гродна, 2010

УДК 811.161.3(075.8)
ББК 81.411.3я73
В 18

Рэкамендавана Цэнтральным навукова-метадычным саветам УА «Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт» (пратакол №9 ад 10.06.2010г.).

Аўтар: ст. выкладчык каф. рускай і беларускай моў ГрДМУ В.І. Варанец.

Рэцэнзент: канд.філал. навук Н.Р. Музычэнка

**Варанец В.І.**
В18 Беларуская мова : дапаможнік для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў / В.І. Варанец. – Гродна : ГрДМУ,
ISBN 978-985-496-411-9

Дапаможнік “Беларуская мова. Прафесійная лексіка.” прызначаны для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў у якасці асноўнай літаратуры пры вывучэнніі курса “Беларуская мова. Прафесійная лексіка”. Дапаможнік складаецца з чатырох асноўных частак. Першая частка падае агульныя звесткі пра мову, шляхі яе развіцця і станаўлення.

У другой частцы змешчаны правілы па беларускай фанетыцы, арфаграфіі, арфаэпіі, марфалогіі, прычым у новай рэдакцыі згодна Закона Рэспублікі Беларусь ад 23.07.2008 г.

Трэцяя частка прысвечана развіццю і культуры мовы. Мастацкія і публіцыстычныя творы для вуснага пераказу, моўныя элементы прафесійнай дзейнасці ўрача, медыцынская дакументацыя, практычныя заданні ставяць за мэту навучыць студэнта свабоднаму валоданню вуснай беларускай мовай, засвоіць азы будучай прафесіі. Узоры афіцыйна-справавых папер дазволяць студэнтам набыць навыкі па іх запаўненню.

Змешчаныя ў чацвёртым раздзеле “Кароткі руска-беларускі медыцынскі слоўнік”, тэксты для пісьмовых перакладаў дазволяць першакурснікам больш якасна засвоіць беларускамоўную медыцынскую тэрміналогію, навучыцца карыстацца ёю на практыцы.

Змяшчаецца разнастайны матэрыял па гісторыі беларускай мовы

Дапаможнік можа быць таксама выкарыстаны ўсімі, хто цікавіцца беларускай медыцынскай лексікай.

**УДК** 811.161.3(075.8)
**ББК** 81.411.3я73

**ISBN 978-985-496-411-9**

# АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ МОВЕ

Мова – з'ява грамадская і сёння немагчыма ўявіць жыццё чалавека без яе. Мову стварае і развівае народ, і натуральна, што пакуль жыве народ, жыве і яго мова. Арганізаваная працоўная дзейнасць грамадства немагчыма без пастаяннага абмену інфармацыяй, а значыць, без мовы. Мова і думка фарміраваліся і развіваліся ва ўзаемадзеянні. Не меншую ролю адыгрывае мова і ў духоўным жыцці народа. Культурныя, навуковыя здабыткі народа базіруюцца на падмурку роднай мовы. Таксама без мовы нельга ўявіць выхаваўчы і асветніцкі працэс у чалавечым грамадстве. У той жа час мова не застылая з'ява, яна ўвесь час удасканальваецца, папаўняецца новымі словамі, выдаляе словы, якія выпадаюць з ужытку дзякуючы пэўным эканамічным, палітычным зменам у грамадстве.

Асноўнымі функцыямі мовы можна назваць кагнітыўную, якая адлюстроўвае пазнанне свету, і камунікатыўную, прызначаную як сродак зносін паміж людзьмі. Мова падкрэслівае як індывідуальнасць цэлага народа, так і індывідуальныя асаблівасці кожнай асобы. Знішчэнне мовы практычна адразу прыводзіць да духоўнага знікнення нацыі. Таму да любой мовы свету трэба адносіцца беражліва як да сапраўднага цуду свету.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І МОВЫ СВЕТУ

Беларуская мова – нацыянальная мова беларускага народа.

Сёння ў свеце налічваецца каля пяці тысяч моў. Большасць з іх не мае пісьменнасці. Усе мовы падзяляюцца на асобныя групы. Кожная група аб’ядноўвае мовы, блізкія фанетычнай сістэмай, граматычным складам, лексікай.

Індаеўрапейская моўная сям'я, у склад якой уваходзіць беларуская мова, налічвае шаснаццаць моўных груп.

Раманская: *італьянская, іспанская, французская, румынская, партугальская, малдаўская, лацінская (лічыцца "мёртвай")* і іншыя мовы; германская: *нямецкая, англійская, нідэрландская (галандская), дацкая, швецкая, нарвежская, ісландская, ідыш* і іншыя мовы; балцкая: *літоўская, латышская, пруская і яцвяжская (абедзве лічацца "мёртвымі") мовы*; індыйская: *урду, бенгалі, хіндзі, пенджабі, цыганская мова, ведыйская і санскрыт (абедзве лічацца "мёртвымі")* і іншыя мовы; іранская: *персідская, таджыкская, курдская, афганская (пушту), асецінская, скіфская (лічыцца "мёртвай")* і іншыя мовы; хета-лувійская (анаталійская): *хецкая мова, клінапісная лувійская, лікійская* і іншыя мовы; грэчаская: *старажытнагрэчаская, навагрэчаская мовы*; кельцкая: *гальская, кельтыберыйская, гайдэльскія мовы, ірландская, мэнская, гэльская, брыцкія мовы, валійская* і іншыя мовы; тахарская: *тахарская А (усходнетахарская), тахарская Б (заходнетахарская) мовы – лічацца "мёртвымі"*; армянская мова; албанская мова; фрыгійская мова; фракійская мова; ілірыйская мова; венецкая мова.

Беларуская мова адносіцца да ўсходнеславянскай падгрупы славянскай групы індаеўрапейскай сям'і моў. Свае вытокі бярэ з агульнаславянскай мовы-асновы (V – VII ст. н. э.). Акрамя беларускай мовы, ва ўсходнеславянскую падгрупу моў уваходзяць руская і ўкраінская. Да заходнеславянскай падгрупы адносяцца чэшская, славацкая, польская, сербскалужыцкая, кашубская; да паўднёваславянскай – балгарская, славенская, сербахарвацкая, македонская мовы.

Заданне 1.

1. Чаму асветніцкі працэс у грамадстве немагчымы без мовы?

2. Колькі існуе ў свеце моўных груп?
3. Да якой групы адносіцца беларуская мова?

# РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Фарміраванне лексічнага складу, фанетычнай і граматычнай сістэм старажытнай беларускай мовы адбылося ў XIV – XVI ст. У Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова выконвала функцыю дзяржаўнай мовы. На ёй вялося справаводства і судаводства, дыпламатычная перапіска. Гісторыя захавала да сённяшніх дзён афіцыйныя дакументы, напісаныя на старажытнай беларускай мове (усяго каля 600 кніг): Статуты Вялікага Княства Літоўскага (1529, 1566, 1588 гг.), Літоўская метрыка і інш. Багата было напісана мастацкіх і публіцыстычных твораў, рабіліся разнастайныя пераклады.

У развіцці беларускай мовы значную ролю адыграла кнігадрукаванне, заснавальнікам якога лічыцца вядомы вучоны, асветнік, пісьменнік Францыск Скарына (каля 1490 – 1551). На працягу 1517 – 1525 гадоў у Празе і Вільні ім былі надрукаваны 23 кнігі Бібліі, перакладзеныя на зразумелую тады для большасці насельніцтва старабеларускую мову. Прадаўжальнікамі яго справы сталі Васіль Цяпінскі і Сымон Будны.

Пасля стварэння Рэчы Паспалітай (1569) беларусы досыць хутка пачалі адчуваць на сабе нацыянальны і рэлігійны прыгнёт з боку Польшчы. Вынікам прымусовага акаталічвання і апалячвання карэннага насельніцтва Беларусі стала выцясненне беларускай мовы з афіцыйнага ўжытку. А ў 1697 годзе афіцыйна абвяшчаецца адзінаю дзяржаўнаю моваю на Беларусі польская мова. З гэтага часу беларуская мова існуе толькі на гутарковым узроўні.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) беларускія землі канчаткова ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Але палітыка дыскрымінацыі беларускай мовы працягвалася і з боку расійскіх уладаў.

Больш таго, нават сама назва “Беларусь” была выведзена з афіцыйнага ўжывання. Тым не менш творчасць Вікенція Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, ананімныя паэмы “Тарас на Парнасе”, “Энеіда навыварат” падтрымлівалі нацыянальную мову беларускага народа пры жыцці. Нельга не ўзгадаць і вялікі ўклад Кастуся Каліноўскага з яго “Мужыцкай праўдай”. Да канца XIX – пачатку XX стагоддзя паступова склаліся прадумовы для ўзнікнення новай беларускай літаратурнай мовы на аснове народных гаворак.

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 – 1907 гг. прынеслі пэўныя паслабленні ў палітычных і культурных адносінах жыхарам Расійскай імперыі. З’яўляюцца беларускамоўныя газеты “Наша ніва” і “Наша доля”, пачынаюць плённую працу Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і інш. Але адзіных арфаграфічных, арфаэпічных, лексічных і граматычных нормаў беларускай мовы яшчэ выпрацавана не было. І тут вялікую ролю адыграла “Беларуская граматыка для школ”, выдадзеная Браніславам Тарашкевічам у 1918 годзе. Менавіта ў гэтым падручніку ўпершыню былі сфармуляваны правілы беларускага правапісу, вызначаны характэрныя асаблівасці беларускай фанетыкі і граматыкі.

У 1921 годзе пачала сваю працу Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія. У перыяд 1922 – 1930 гадоў ёю былі выдадзены 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі па розных раздзелах навукі і тэхнікі. Трэба адзначыць, што вялікую ўвагу камісія адводзіла распрацоўцы медыцынскай тэрміналогіі. Ёй былі прысвечаны 9, 13 і 20 выпускі зборнікаў “Беларуская навуковая тэрміналогія”. З 1929 года пачаў працаваць Інстытут мовазнаўства АН БССР.

У 1933 годзе ўрадам БССР была прынята пастанова “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу”, а ў 1957 – “Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу”. Дзевяностыя гады XX стагоддзя

далі чарговы ўздым нацыянальнай самасвядомасці і развіццю нацыянальнай мовы. Беларуская мова была прынята ў якасці дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, пачалі ствараюцца новыя тэрміналагічныя і энцыклапедычныя слоўнікі, у вышэйшых навучальных установах рэспублікі ўведзены курс "Беларуская мова. Прафесійная лексіка". У 2008 годзе прыняты Закон "Аб змяненні беларускай арфаграфіі і пунктуацыі".

Беларуская мова мае спецыфічныя асаблівасці, якія розняць яе ад іншых усходнеславянскіх моў:

- дзеканне і цеканне ( *дзядзька, цяпло*);
- яканне ( *зямля, ляснік*);
- зацвярдзелыя [**ч**], [**р**] ( *чыпсы, рыс*);
- шчылінны [**г**] ( *град, нагрузіць*);
- гук [**дж**] ( *дождж, джала*);
- нескладовае [**ў**] на месцы этымалагічнага [**л**] ці [**в**] (*каўбаса, лоўка*);
- прыстаўныя галосныя і зычныя *( вобласць, ільдзіна, гэты*);
- падоўжаныя зычныя ( *насенне, печчу*).

Да адметных рыс беларускай мовы можна аднесці і наяўнасць уласнабеларускіх слоў, якіх нельга сустрэць у іншых славянскіх мовах: *каліва, дрыгва, волат.*

Не менш адметным з'яўляецца і беларускі сінтаксіс. Гэта асабліва назіраецца ў словазлучэннях, звязаных кіраваннем: *ажаніцца з ёю, пайсці па грыбы, за пяць кіламетраў ад горада* і г.д.

І сёння, з'яўляючыся адной з дзвюх дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь, беларуская мова займае высокае месца сярод найбольш развітых і распрацаваных моў свету.

Заданне 2.

1. Што азначае паняцце "дзяржаўная мова"?
2. Чым вызначыўся ў гісторыі Беларусі Браніслаў Тарашкевіч?
3. Чым займалася Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія?

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА І ДЫЯЛЕКТЫ

Літаратурная мова мае дзве формы: пісьмовую і вусную. Пісьмовая мова адрозніваецца ад вуснай больш складаным сінтаксісам, большай колькасцю абстрактнай і тэрміналагічнай лексікі.

Літаратурная мова з'яўляецца адзінай на ўсёй тэрыторыі, на якой пражывае нацыя. Яна вызначаецца ўнармаванасцю лексікі, граматыкі, стылістычнымі разнавіднасцямі. Літаратурная мова абслугоўвае ўсе сферы грамадскага жыцця народа, навуку, справаводства, культуру.

Дыялектная мова існуе ў выглядзе мясцовых, тэрытарыяльных гаворак. Дыялекты аб'ядноўваюць групу ці групы мясцовых гаворак, якія маюць агульныя асаблівасці ў фанетыцы, граматыцы, лексіцы.

У беларускай дыялектнай мове вызначаюць два тыпы гаворак: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. Паміж імі існуюць так званыя пераходныя гаворкі, або сярэднебеларускія.

Паўночна-беларускі дыялект аб'ядноўвае Віцебскую, большую частку Магілёўскай і паўночныя раёны Мінскай абласцей. Для жыхароў гэтых рэгіёнаў уласцівы наступныя словы: *вязець, буду чытаць, зімля, маліц (хлопец).*

Паўднёва-заходні дыялект распаўсюджваецца на Брэсцкую, Гомельскую вобласці, паўднёвыя раёны Міншчыны і большую частку Гродзеншчыны. Тут можна пачуць: *напіўса, шуляк (каршун), дзве свінне, гаўца (аўца).*

Сярэднебеларускія гаворкі (цэнтральная частка Беларусі) больш набліжаны да сучаснай літаратурнай мовы.

Дыялектная мова з’яўляецца невычэрпнай крыніцай для папаўнення і ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы.

## КІРЫЛІЦА І ЛАЦІНКА

На ўсім гістарычным шляху развіцця пісьмовай беларускай мовы выкарыстоўваліся два віды алфавіта: кірыліца і лацінка.

Кірыліца – па меркаваннях большасці даследчыкаў, гэта азбука была створана славянскімі асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем у IX стагоддзі на аснове грэка-візантыйскага пісьма. У дадзеным алфавіце налічваліся 43 літары, 24 з іх мелі візантыйскае паходжанне, а 19 створаны ўпершыню. Першая кніга, напісаная кірыліцай, – Астрамірава евангелле 1056 – 1057 гг. На аснове кірыліцы склаліся сучасныя беларускі, рускі, украінскі, балгарскі і сербскі алфавіты.

Лацінка – лацінскі алфавіт і пісьмо. Лацінка ўзнікла ў VII ст. да н.э. і мела 20 літар. На аснове лацінскага алфавіта былі створаны алфавіты больш за 70 моў, якімі зараз карыстаюцца 35% насельніцтва свету.

На Беларусі лацінка набыла папулярнасць у канцы XVI стагоддзя з нагоды распаўсюджвання каталіцызму. На ёй пісаліся афіцыйныя паперы, выдаваліся творы пісьменнікаў. Лацінкай карысталіся Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Вінцэнт Дуніні-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, прыстасаваўшы яе да беларускай мовы. Раннія творы Якуба Коласа, зборнік вершаў “Гусляр” Янкі Купалы былі таксама на лацінцы.

Параўнанне кірыліцы з лацінкай

| | |
|---|---|
| А – A, a | О – O, o |
| Б – B, b | П – P, p |
| В – V, v | Р – R, r |
| Г – H, h | С – S, s |
| Ґ – G, g | Т – T, t |
| Д – D, d | У – U, u |
| Е – Je, je, (i)e | ў – ŭ |
| Ё – Jo, jo, (i)o | Ф – F, f |
| Ж – Ž, ž | Х – Ch, ch |
| Дж – Dz, dz | Ц – C, c |
| З – Z, z | Ч – Č, č |
| Дз – Dz, dz | Ш – Š, š |
| І – I, i | ы – y |
| Й – J, j | Э – E, e |
| К – K, k | Ю – Ju, ju, (i)u |
| Л – L, l, Ł, ł | Я – Ja, ja, (i)a |
| М – M, m | ь – (') |
| Н – N, n | ‘ _ ‘ |

Заданне. Прачытайце беларускую казку “Воўк і вавёрка”[1], напісаную беларускай лацінкай.

VAVIORKA J VOUK

Voŭk, najeŭšysia, spaŭ u lesie pad drevam. Vaviorka pa drevie skakała z sučka na sučok, I zvaliłasia na vaŭka. Voŭk chacieŭ jaje žjesči. Ale vaviorka pačała prasicca:

- Pušci mianie.

Voŭk skazaŭ:

- Dobra, Ja pušču ciabie, ale ty skažy mnie, čamu vy, vaviorki, zaŭsiody hetkija viasiołyja j šustryja, a my, vaŭki, złosnyja j panuryja?

Vaviorka jamu adkazała:

[1] Казка ўзята з падручніка “Лямантар” – Нью-Йорк, 1964г.

Pierš adpušci mianie na dreva, dyk ja skažu tabie, a to bajusia ciabie.

Voŭk nia byŭ hałodny, dyk puściŭ jaje. Vaviorka skoknuła na dreva j pramoviła:

- Vy, vaŭki, zaŭsiody panuryja j złosnyja, bo złošč vam serca pierajeła. My zaŭsiody viasiołyja j šustryja, bo nikoli nikomu nia robim škody.

Заданне 3.

1. Як вы разумееце паняцце “дыялектная мова”?
2. Якія вылучаюць дыялектныя групы на тэрыторыі Беларусі?
3. Асаблівасці беларускай лацінкі?

# ПАЎТАРЭННЕ.

# ФАНЕТЫКА. АРФАГРАФІЯ. АРФАЭПІЯ.

# МАРФАЛОГІЯ.

**Беларускі алфавіт.**

Беларускі алфавіт змяшчае 32 літары: Аа Бб Вв Гг Дд (Дж, дж, Дз, дз) Ее Ёё Жж Зз Іі Йй Кк Лл Мм Нн Оо Пп Рр Сс Тт Уу Ўў Фф Хх Цц Чч Шш Ыы Ьь Ээ Юю Яя

Дыграфы **дж** і **дз** абазначаюць афрыкаты **[дж], [дз’]**. Апостраф ( ‘ ) – надрадковы знак і літарай не з’яўляецца.

## § 1. Галосныя літары

1. У беларускім алфавіце 10 галосных літар: ***а, о, у, ы, э, е, ё, і, ю, я.***

2. Літары ***а, о, э, у*** пішуцца ў пачатку слова і пасля цвёрдых зычных для абазначэння адпаведных галосных гукаў. Літара ***і*** пішацца ў пачатку слова, пасля зычных пішацца ***ы*** або ***і*** ў залежнасці ад цвёрдасці або мяккасці зычных. Літары ***е, ё, ю, я*** у пачатку слова, у сярэдзіне слова пасля галосных, ***ў*** (у нескладовага), раздзяляльнага мяккага знака і апострафа абазначаюць на пісьме спалучэнне зычнага гука [***й***] з галоснымі [***э***], [***о***], [***у***], [***а***]: елка – [***йэ***]лка, яма – [***йа***]ма; паехаў – па[***йэ]***хаў, здароўе – здароў[***йэ***]; льеш – ль[***йэ***]ш; аб’езд – аб[***йэ***]зд.

3. Літары ***я, ё, е, ю, і*** пасля зычных абазначаюць мяккасць зычных і адпаведныя галосныя гукі [***а***], [***о***], [***э***], [***у***], [***і***]: сяду – [***с’а***]ду, мёд – [***м’о***]д, лета – [***л’э***]та, люты – [***л’у***]ты, ліст – [***л’і***]ст.

4. Кропкі над літарай ***ё*** абавязковыя. Кропка над літарай ***і*** малой абавязковая. Над літарай ***І*** вялікай у друкаваных тэкстах кропка не ставіцца, а ў рукапісных тэкстах кропка абавязковая.

## § 2. Літары *о, ё*.

1. Літара ***о*** пішацца заўсёды толькі пад націскам: *золата, трыа, Токіа.*

2. Літара ***ё*** пішацца пад націскам: лёгкі, зялёны, вёскі.

3. Літара ***ё*** не пад націскам пішацца ў словах з коранем ***ёд-, ёт-***: *ёданол, ётаваны.*

4. Літара ***ё*** пішаца ў складаных словах , першая частка якіх ***радыё-***: *радыёпрыёмнік, радыёхваля, радыёграма.*

Калі першая частка складанага слова ўтворана ад назвы хімічнага элемента ***радый***, то пішацца літара ***е***, якая з'яўляецца злучальнай галоснай: *радыеактыўнасць, радыеізатопы.* У першым складзе перад націскам у такіх словах пішацца ***я***: *радыяхімія, радыяметрыя.*

## § 3 Літары *э, е*.

1. Літара ***э*** пішацца :

у пачатку выклічнікаў ***э, эге, эге-ге, эй, эх***;

пасля прыстаўной літары ***г*** у слове ***гэты*** і вытворных ад яго (*дагэтуль*), а таксама ў выклічніках ***гэ, гэй*** і назвах літар (*бэ, вэ* і інш.);

пасля шыпячых, ***[р], [д], [т]*** і цвёрдага ***[ц]***: *жэрдка, сардэчны, цэны.*

2. У пачатку запазычаных слоў літары ***э, е*** як пад націскам, так і не пад націскам пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем: *эра, эсэ, Эліста, ерэтык, Еўфрат.*

На канцы запазычаных нязменных слоў, а таксама ўласных імён і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя ***л, к***, пішацца ***э***: *рэзюмэ, кабернэ, дэкальтэ*; *Мерымэ, Брыгвадзэ, Душанбэ*; але: *філе, камюніке, піке.*

3. Літара ***э*** ў запазычаных словах пасля губных зычных, а таксама пасля ***з, с, н*** пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем. Так словы *капэла*, ***сурвэтка, экзэмпляр, маянэз, тунэль, сэрвіс, інтэрнэт*** пішуцца з літарай ***э***, а словы ***медаль, менеджмент, нервы, парламент, перспектыва, газета, сервіз*** – з літарай ***е***.

4. У запазычаных словах, вызначаных у пунктах 2 і 3 гэтага параграфа, напісанне ***э, е*** вызначаецца па слоўніку.

## § 4. Перадача акання на пісьме

1. Галосныя гукі [**о**], [**э**] ў ненаціскным стане чаргуюцца з [**а**]: *дом – дамы, мова – маўленне, цэгла – цагляны.*

2. Незалежна ад паходжання слова гук [**о**] ў ненаціскных складах вымаўляецца як [**а**], што перадаецца на пісьме: *гара, вада, баранаванне, Гамер, заалогія.*

Не падпарадкоўваюцца аканню словы са спалучэннямі ***ро, ло***, якія чаргуюцца з ***ры, лы***: *крой – крыві – крывавы, дровы – дрывотня, крошка – крышыць.*

3. У словах славянскага паходжання і запазычаных словах, цалкам адаптаваных у беларускай мове, галосны [**э**] ва ўсіх ненаціскных складах чаргуецца з [**а**] і абазначаецца на пісьме літарай ***а***: *стрэхі – страха, шэры – шарэць, крэмль – крамлёўскі.*

Ва ўласных імёнах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў у ненаціскных складах гук [**э**] падпарадкоўваецца агульным правілам акання – пасля цвёрдых зычных ён чаргуецца з [**а**] і абазначаецца на пісьме літарай ***а***: *Беразіно, Чарапавец, Чалюскін, транслітарацыя.*

4. Перадача на пісьме [**э**] ў іншых запазычаных словах у ненаціскных складах асновы вызначаецца наступнымі правіламі:

У пачатку слова [**э]** перадаецца на пісьме літарай ***э*** ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем: *эканомія, экзамен, экватар*. Літара ***э*** пішацца пасля прыставак і ў другой частцы складанага слова: *праэкзаменаваць, трохэлементны, квінтэсэнцыя;*

Пасля шыпячых, [**р], [д], [т]** і цвёрдага [**ц]** пішацца ***э***: *жэтон, Жэнева, жэрар, чэкмень, рэформа, Рэмарк, рэестр, гардэроб, Дэфо, дэлегат, дэманстрацыя, ордэн, тэорыя, ветэран, катэт, тэрмометр, тэарэма, цэнтралізм, цэвіта.*

5. У запазычаных словах напісанне ***э*** і ***а*** пасля зычных, акрамя шыпячых, [**р], [д], [т]** і цвёрдага [**ц]**, вызначаецца па слоўніку: *панэль*; але: *шынель.*

6. Ненаціскныя фіналі ***–эль, –эр*** у запазычаных словах перадаюцца як *–аль, –ар*: *шніцаль, шпаталь, форталь, карцар, грэйдар, лідар, камп'ютар, пэйджар, райсфедар, эспандар, тэндар, ордар, менеджар, фарватар, альма-матар, кратар, прэсвітар.*

Ненаціскныя фіналі ***–эль,–эр*** ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання перадаюцца нязменна: *Ландэр, Одэр, Пітэр, Юпітэр.*

## § 5. Правапіс літар *а, о, э* ў складаных словах

1. У складаных словах можа быць адзін асноўны і адзін або некалькі пабочных націскаў. Калі ў другой частцы складанага слова націск на першым складзе, то ў першай частцы замест ***о*** пішацца ***а***: *дабрадзей, скараход, вадасховішча.*

Літара ***о*** захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляюцца **слова-, што-, фота-, мота-**: *словаформа, штомесяц, фотаздымак*; але: ***фатаграфія*** і вытворныя ад яго; *мотакрос*; але: ***матавоз***, ***матацыкл*** і вытворныя ад іх.

2. Калі ў другой частцы складанага слова націск не на першым складзе, то ў першай частцы захоўваецца ***о***: *асновапалажэнне, вагонарамонтны, конегадоўля.*

У першай частцы некаторых складаных слоў, асабліва навуковых тэрмінаў, можа выразна праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі. У такім выпадку пад пабочным націскам у першай частцы захоўваецца напісанне ***о***: *агарафобія, азонастойкі, азотнакіслы, збожжасховішча, коксагазавы, манголазнаўства, мовазнаўства, маторазборка, работадавец, словатворчасць, фондасховішча* і інш.

Ва ўсіх іншых выпадках напісанне падобных слоў вызначаецца па слоўніку.

3. Літара ***о*** пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** (у нескладовага): *марозаўстойлівы, торфаўборачны, збожжаўборка.*

4. Лічэбнікі ад 600 да 800 утвараюць асобны тып складаных слоў, у якіх першая частка скланяецца і пішацца як самастойнае слова.

Напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| Н. *шэсцьсот* | *семсот* | *восемсот* |
| Р. *шасцісот* | *сямісот* | *васьмісот* |
| Д. *шасцістам* | *сямістам* | *васьмістам* |
| В. *шэсцьсот* | *семсот* | *восемсот* |
| Т. *шасцюстамі* | *сямюстамі* | *васьмюстамі* |
| М. *(аб) шасцістах* | *сямістах* | *васьмістах* |

5. Гук [**э**] ў першай частцы складаных слоў захоўваецца і абазначаецца літарай ***э***: *мэтанакіраваны, мэтазгодна, рэдказубы, крэдытаздольнасць.*

6. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў форме роднага склону і іншага слова, першая частка пішацца так, як яна пішацца ў родным склоне лічэбніка: *трохдзённы, пяцідзёнка, двухсотметровы.*

7. Калі складаныя словы маюць у сваім складзе больш за дзве часткі, то кожная з іх пішацца як асобна ўзятае слова: *авіяматорабудаванне, аўтатрактарабудаванне, аграфотапрыбор.*

## § 6. Перадача якання на пісьме

1. Галосныя ***е, ё*** ў першым складзе перад націскам абазначаюцца на пісьме літарай ***я***: *землі – зямля, зелень – зялёны, дзевяць – дзявяты, дзесяць – дзясяты, сем – сямнаццаць, восем – васямнаццаць.*

У іншых ненаціскных складах ***е*** захоўваецца: *селянін, зеляніна, вестуны, дзевятнаццаты.*

2. Літара ***я*** пішацца ў першым складзе перад націскам у імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў: *Бялынічы, каляндар, яфрэйтар, сяржант, Яфім.*

3. Заўсёды захоўваецца ***е*** ў першым складзе перад націскам пасля заднеязычных ***г, к, х***: *герой, Герасім, кераміка, кефір, Херсон.*

4. Часціца ***не*** і прыназоўнік ***без*** заўсёды пішуцца з літарай ***е***: *не быў, не браў, без меры, не без вынікаў.*

Пры напісанні разам ***не*** і ***без*** становяцца прыстаўкамі і падпарадкоўваюцца агульным правілам напісання галосных літар ***е, я***: *няхай, нястомна, бязмежны, бясконца; але: непісьменны, безупынны, беспаваротны.*

5. Літара ***я*** пішацца ў некаторых каранях слоў нязменна: *віцязь, сувязь, заяц, яравы, , завязь; япрук – япрука, ядловец – ядлаўцовы.*

6. Літара ***я*** пішацца ў паслянаціскных складах у некаторых суфіксах назоўнікаў (*роўнядзь, боязь, дробязь*) і дзеясловаў (*лаяць, веяць, сеяць, муляць*), а таксама ў аддзеяслоўных назоўніках (*лаянка, веялка, сеялка*).

## § 7. Правапіс *е, ё, я* ў складаных словах

1. У першай частцы складанага слова літара ***е*** захоўваецца незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы: *сенакасілка, серпадзюб, белабрысы.*

Калі першай часткай складаных слоў з’яўляецца аснова ***велік-/вялік-,*** напісанне літар ***е*** або ***я*** залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы – пішацца ***е***, калі другі – пішацца ***я***: *велікадушны, велікарускі; Вялікабрытанія, вялікагаловы.*

2. У першай частцы складанага слова літара ***ё*** захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі і замяняецца на ***е***, калі націск на першым складзе другой часткі: *лёгкаатлетычны, мёдаварэнне; ледарэз, медагонка.*

3. У складаных словах злучальныя галосныя ***о, ё*** пішуцца толькі пад націскам, галосная ***а*** – у любым ненаціскным складзе: *ільновалакно, Вадохрышча, куродым.*

4. Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах пераходзіць у ***я***, калі націск на першым складзе ў другой частцы складанага слова: *баяздольны, зернясховішча, крывятворны*; але: *боепрыпасы, зернебабовы.*

Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** (у нескладовага): *зернеўборачны, вогнеўстойлівы.*

Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як простыя словы з адным націскам: *зямфонд, лясгас.*

## § 8. Прыстаўныя галосныя *і, а.*

1. Прыстаўная галосная ***і*** пішацца:

У пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай літарай ***м***: *імшара, імчаць, імгла;*

У пачатку некаторых слоў перад спалучэннямі зычных з першымі літарамі ***р, л,*** калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знаку прыпынку ці слова, што заканчваецца на зычную: *іржа, ірваць; ілгун, ільдзіна. Іржуць коні, калёсы скрыпяць ад Дона да Буга (Я. Купала). Часамі*

*на цэлыя кіламетры рассцілалася дарога роўным, нібы выбеленым на сонцы, ільняным палатном (Я. Колас).* Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосную, і пасля яго няма знаку прыпынку, то прыстаўная ***і*** не пішацца: *Азалаціла восень поле ржышчам, дрэвы лісцем, гумны мнапамі (К. Чорны).*

2. У некаторых словах можа з’яўляцца прыстаўная галосная ***а***: *імшара* і *амшара, іржаны* і *аржаны, іржышча* і *аржышча.*

3. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары ***і*** і ***а*** перад ***р, л, м*** не пішуцца: *заржавець, замглёны, вокамгненна.*

## § 9. Спалучэнні галосных у запазычаных словах

1. Калі спалучэнні ***іо, йо*** вымаўляюцца як два склады, тады яны на пісьме абазначаюцца:

паміж зычнымі – літарамі ***іё (ыё)*** пад націскам і ***ія (ыя)*** не пад націскам: *біёлаг, даменіён, рацыён, бастыён; біялогія, бібліятэка, патрыятызм, рацыянальны;*

у пачатку слова – літарамі ***іо*** пад націскам і ***іа*** не пад націскам: *іон, Іосіф; іанізацыя, Іаан.*

2. Калі спалучэнні ***іо, йо*** вымаўляюцца як адзін склад, тады на пісьме яны перадаюцца:

пасля галосных – праз ***ё*** пад націская і ***я*** не пад націскам: *раён, маёр; маянэз, раяніраванне;*

у пачатку слова – праз ***ё***: *ёг, ёгурт, ёт, ёдоформ.*

3. Спалучэнне ***іе*** абазначаецца на пісьме літарамі ***іе (ые)***: *гігіена, кліент аўдыенцыя, абітурыент.*

4. Спалучэнне ***йе*** заўсёды вымаўляецца як адзін склад і на пісьме ў пачатку слова і пасля галосных перадаецца праз ***е***: *езуіт, канвеер, Феербах, фае.*

5. Спалучэнне ***іа*** абазначаецца на пісьме літарамі ***ія (ыя)*** незалежна ад месца націску: *авіяцыя, піяніст, матэрыял, дыяметр*.

6. Спалучэнне ***йа*** на пісьме перадаецца:

пасля галосных і ў пачатку слова – праз ***я***: *раяль, Мая, ярд*;

пасля зычных ***л, с, ц*** (мяккага), ***дз*** і непрыставачных ***н*** і ***з*** – праз ***ья***, пасля астатніх зычных – праз ***'я***: *мільярд, мадзьяр, саф'ян.*

**Тлумачэнне:**

1. На жаль, правапіс спалучэнняў галосных у досыць значнай часткі іншамоўных слоў можа быць вызначаны толькі па слоўніку.

Так напісанне спалучэнняў ***-іе-, -ые-*** ў словах іншамоўнага паходжання абумоўлена асаблівасцямі вымаўлення, а таксама характарам папярэдняй зычнай.

З ***-іе-*** пішуцца словы *гігіеніст, гігіена, гіена, зоагігіена, іерадыякан, іераманах, іерархічны, іерарх, іерархія, іерогліф, Іерусалім, іерыхонскі, іерэміяда, іерэй, іерэйскі, іена, квіетычны, сіена.*

З ***-ые-*** пішуцца словы *абітурыент, андыец, арыентацыя, арыета, аўдыенцыя, дэарыентацыя, інгрэдыент, каэфіцыент, пацыент, трыера.*

З ***-іэ-*** пішуцца словы *міэліт, астэаміэліт, поліяміэліт, піэтэт.*

# ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

## § 10. Зычныя літары

1. Для абазначэння зычных гукаў у беларускай мове выкарыстоўваецца 21 літара: ***б, в, г, д, ж, з, й, к, л, м, н, п, р, с, т, ў, ф, х, ц, ч, ш.***

2. Асобныя гукі не маюць спецыяльных літар: афрыкаты [***дж***], [***дз***], і мяккі [***дз’***] перадаюцца на пісьме адпаведна спалучэннямі літар ***д*** і ***ж***, ***д*** і ***з***: *хаджу, ваджу, ксяндзы, пэндзаль, дзюны*.

3. Гук [***й***] перадаецца або літарай ***й*** (на канцы склада пасля галосных: *рэйка, май*), або літарамі ***е, ё, і, ю, я***, якія адпаведна абазначаюць спалучэнні гукаў [***йэ***], ***[йо***], [***йі***], [***йу***], [***йа***] ў пачатку слова, пасля галосных, апострафа, раздзяляльнага мяккага знака і ***ў*** (у нескладовага): *яма, ёмкі, ехаць, іней, юшка, маянэз, аб’ява, медальён, салаўі.*

## § 11. Правапіс звонкіх і глухіх зычных

1. Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнага ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца. Для праверкі правільнасці напісання звонкіх і глухіх зычных трэба змяніць слова ці падабраць іншае аднакаранёвае слова, каб пасля зычнага, які патрабуе праверкі, быў галосны або зычныя ***р, л, м, н, в***: *рыбка – рыба, магчы – магу, носьбіт – насіць; хлеб – хлеба, рог – рога, грыб – грыбны, бег – беглы.* Словы ***лязг, лязгаць*** маюць варыянты ***ляск, ляскаць.***

2. Правапіс уласнабеларускіх і запазычаных слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па слоўніку: *футбол, баскетбол, вакзал, айсберг, струбцына, экзамен, Афганістан.*

## § 12. Зычныя *д, т* і *дз, ц*

1. Чаргаванне цвёрдых зычных гукаў [***д***], [***т***] з мяккімі [***дз'***], [***ц'***] (дзеканне і цеканне) адлюстроўваецца на пісьме: замест ***д, т*** перад ***е, ё, і, ю, я*** пішуцца адпаведна ***дз, ц:*** *гарады – у горадзе, іду – ідзём, вада – вадзяны, грудны – грудзі, чысты – чысцюткі.*

2. Чаргаванне [***д***], [***т***] з [***дз'***], [***ц'***] адбываецца перад мяккім [***в'***]: *два – дзве, мёртвы – мярцвяк, чатыры – чацвёрты.*

Літары ***ц*** і афрыката ***дз*** перад мяккім [***в'***] пішуцца згодна з вымаўленнем у словах: *дзверы, бацвінне, ліцвінка, Мацвей, Мацвеенка, Бацвінкоў* і інш. Выключэнне: ***твіст.***

3. Гукі [***д***] у канцы прыстаўкі і [***т***] у складзе суфікса перад мяккім [***в'***] захоўваюцца нязменна і на пісьме перадаюцца адпаведна літарамі ***д*** і ***т***: *адвезці, у таварыстве, у выдавецтве.*

Гук [***т***] вымаўляецца нязменна і на пісьме перадаецца літарай ***т*** перад мяккім [***в'***] у аддзеяслоўных назоўніках і ў словах, вытворных ад іх: *бітва – у бітве, клятва – клятве, пітво – у пітве.* Літары ***д*** і ***т*** пішуцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва – мардве, Мардвінаў, Літва – у Літве.*

4. У запазычаных словах (а таксама ў вытворных ад іх) цвёрдыя ***д, т***, як правіла, пішуца нязменна: *рэйсфедар, дэлегат, ерэтык, дыктатура.*

5. Перад суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання ***-ін-, -ір-, -ік-, -ёр-, -еец-, -ейск-*** у словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, вытворных ад іх, [***д***] і [***т***] чаргуецца з [***дз'***], [***ц'***], што і адлюстроўваецца на пісьме: *сульфіды – сульфідзін, індзеец* (але: *Індыя – індыец*), *мантаж – манцёр, білет – білецёр.*

6. Зычныя ***дз, ц*** пішуцца ў некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца па слоўніку: *мундзір, гетэрадзін, цір, цітр, каранцін.*

7. Зычныя ***д, т*** або ***дз, ц*** пішуцца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем ва ўласных імёнах і назвах: *Дадэ, Дэфо, дэ Бальзак, Дэтройт, Атэла, Тэкля, тэрэза, Дзяніс, Уладзівасток, Хрысціна, Палесціна* і інш. Правапіс такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

### § 13. Некаторыя спалучэнні зычных

1. У асобных словах адбылося спрашчэнне груп зычных: гістарычныя спалучэнні ***здн, згн, стн, скн, стл, рдн*** вымаўляюцца як ***зн, сн, сл, рн***, што і адлюстроўваецца на пісьме:

***здн – зн***: *праязны* (параўн.: *прыезд*), *позна, Познышаў*;

***згн – зн***: *бразнуць* (параўн.: *бразгаць*);

***стн – сн***: *бязлітасны* (параўн.: *літасць*), *пачэсны, ненавісны*;

тое ж у запазычаннях: *кантрасны, кампосны, фарпосны, аванпосны, баласны.*

***скн – сн***: *бліснуць* (параўн.: *бліскаць*), *пляснуць, трэснуць*; але: *віскнуць, націкны*;

***стл – сл***: *жаласлівы* (параўн.: *жаласць*), *шчаслівы, помслівы*;

***рдн – рн***: *міласэрны, міласэрнасць* (параўн.: *сардэчны*).

2. Спалучэнні зычных ***ск, ст, с'ц'*** на канцы кораня слова могуць чаргавацца з шч, што і перадаецца на пісьме: *воск – вашчыць, густы – гушчар, хрысціць – хрышчоны.* Калі каранёвае ***с*** стаіць побач з суфіксальным ***к***, якое можа чаргавацца з ***ч***, то спалучэнне гукаў ***с*** і ***ч*** (у вымаўленні – [***шч***]) перадаецца як ***сч***. Напісанне ***сч*** захоўваецца і ва ўсіх вытворных словах: *пясчынка, пясчанік, брусчатка.*

3. Спалучэнне зычных ***дт*** на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз ***т***: *Кранштат, Рэмбрант, Шміт.*

## § 14. Прыстаўныя і ўстаўныя зычныя

1. Прыстаўная літара ***в*** пішацца перад націскным ***о***:

у пачатку слоў: *возера, вольха, Вольга* і інш., у вытворных ад іх словах пасля прыставак: *абвостраны, павойкаць, увосень*; але: *окаць, одум*. Пры змене націску ***о*** пераходзіць у ***а*** і прыстаўная ***в*** у гэтых словах не пішацца: *абады, азёрны, асенні*;

перад прыстаўкамі ***о-, об-, од- (от-)***: *вокіс, вокліч, вобземлю, водзыў, вотруб'е* і інш., а таксама *навобмацак, наводдалек, паводле, наводшыбе* і інш.;

у запазычаных словах: ***вохра, воцат*** і вытворных ад іх: *вохрыць, воцатнакіслы* і інш.

2. У словах ***вока, вострыі, восем, вакол*** і вытворных ад іх прыстаўная ***в*** захоўваецца незалежна ад месца націску: *вачамі, вастрыць, васьмёра, наваколле.*

3. Перад націскным ***о*** ў сярэдзіне некаторых слоў пішацца ўстаўная літара ***в***: *ніводзін, Лявон, Радзівонаў* і інш.

4. Прыстаўная ***в*** не пішацца ў запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах перад пачатковым націскным [***о***]: *опера, ода, ордэн, офіс, Омск, Орша* і інш.

5. Прыстаўная літара ***в*** пішацца:

перад каранёвым ***у*** ў пачатку слоў: *вугал, вуліца, вус*, а таксама ў вытворных ад іх словах незалежна ад месца націску: *абвуглены, чатырохвугольнік, завулак, вусач* і інш.;

Перад націскнымі прыстаўкамі ***у-, уз- (ус-)***: *вупраж, вузгалаўе, вусціш.*

6. Устаўная літара ***в*** пішацца ў сярэдзіне слоў:

перад націскным ***у***: *павук, цівун, есавул,* а таксама ў вытворных ад іх словах незалежна ад месца націску: *павукі, цівуном, есавульскі*;

перад ***у*** ва ўласных імёнах і геаграфічных назвах: *Матэвуш, Навум, Тадэвуш, Навумаўка.*

7. Прыстаўная ***в*** не пішацца перад націскным пачатковым ***у***:

у запазычаных словах: *ультра, унтэр, унікум, урна, унія*; але: *вустрыца*;

ва ўласных імёнах і назвах: *Ульяна, Умань, Урал, Узбекістан* і інш.

8. Прыстаўная літара ***г*** пішацца ў займенніках *гэты, гэтакі, гэтулькі* і ў прыслоўях *гэтак, гэтаксама, дагэтуль, адгэтуль.*

З прыстаўной літарай ***г*** пішуцца выклічнікі: *гэй, го, га.*

## § 15. Нескладовае *ў* і *у* складовае

1. Нескладовае ***ў*** пішацца згодна з беларускім літаратурным вымаўленнем пасля галосных:

пры чаргаванні [***у***] з [***ў***]:

у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *на ўвесь дзень (ад усіх), моцны ўдар (ад удару), для ўніята (з уніятам)*;

у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі: *саўна, аўра, джоўль*; але: *траур*;

пры чаргаванні [***л***] з [***ў***]: *даў, поўны, паўметра*; але: *палка, Волга, Балгарыя;*

пры чаргаванні [***в***] з [***ў***]: *лаўка (лава), аўса (авёс)Аўрора*; але: *краіна В’етнам, рака Влтава, армія В’етконга.*

У канцы запазычаных слоў ненаціскное ***у*** не скарачаецца: *фрау, Ландау, ток-шоу, ноу-хау.*

2. Гук [***у***] пад націскам не чаргуецца з [***ў***]: *да урны, Брэсцкая унія, аул, баул, аукаць*, у выклічніках ***у*** (*у, нягоднікі!*), ***ух*** (*ух ты!*), ***уй*** (*уй, які смешны!*).

3. Гук [***у***] не чаргуецца з [***ў***] у запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум, -ус***: *прэзідыум, кансіліум, радыус, соус* і вытворных ад іх.

4. Гук [***у***] на пачатку ўласных імён і назваў заўсёды перадаецца вялікай літарай ***У*** складовае без

надрадковага значка: *ва Узбекістан (для ўзбекаў), на Уральскіх гарах (на ўральскіх дарогах), за Уладзіміра.*

## § 16. Нескладовае *й*

1. Гук [***і***] пасля прыставак, якія заканчваюцца на галосны, чаргуецца з [***й***] і перадаецца на пісьме літарай ***й***:

у словах з коранем *іс-ці, ігр-аць, ім-я* на месцы ненаціскнога пачатковага каранёвага [***і***]: *зайсці, выйду, перайначыць*;

у словах *займаць, наймаць, пераймаць, перайманне, праймаць.*

У астатніх выпадках пачатковы каранёвы гук [***і***] захоўваецца пасля прыставак на галосны: *заіскрыцца, заікацца, заінець, праіснаваць, заінтрыгаваць, праілюстраваць, праінфармаваць, неістотны, Прыіртышша, Заішым'е, Заілійскі, праіранскі.*

2. У словах, утвораных ад дзеясловаў ***ісці, іграць*** пры дапамозе прыставак на зычны (***аб-, ад-, над-, раз-, уз-*** і інш.), [***і***] чаргуецца з [***ы***]: *абышоў, надысці, падыграць* і інш.

3. У сярэдзіне запазычаных слоў, у тым ліку ва ўласных назвах, літара ***й*** пішацца толькі перад зычнымі: *дызайн, Кландайк, Драйзер, лайнер, камбайн.*

Гукавое спалучэнне зычнага гука [***й***] з галоснымі ў словах іншамоўнага паходжання перадаецца ётаванымі галоснымі, як у словах уласнабеларускіх:

на пачатку слова: *Ёфе,Нью-Ёрк*;

пасля галоснага ў сярэдзіне слова: *маёр, маянэз, раён*;

пасля галоснага на канцы слова: *фае, Мая, Папая.*

## § 17. Падоўжаныя і падвоеныя зычныя

1. На пісьме падоўжаныя зычныя ***ж, з, дз, л, н, с, ц, ч, ш,*** якія стаяць паміж галоснымі, абазначаюцца

падвоеным напісаннем адпаведных літар (падоўжанае ***дз*** на пісьме перадаецца як ***ддз***): *замужжа, маззю, суддзя, колле, карэнне, двукоссе, адкрыццё, ламачча, мышшу.*

2. У запазычаных словах, у тым ліку ва ўласных імёнах і назвах, і вытворных ад іх словах падвоеныя літары звычайна не пішуцца: *граматыка*, *піца, Ала*; але: *бонна, донна, манна, панна, ванна, мадонна, саванна; Ганна, Жанна, Сюзанна, Мекка* і інш. Напісанне такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

3. Ва ўласных імёнах і назвах падоўжанае вымаўленне зычных адлюстроўваецца на пісьме: *Аўгіння, Наталля,* Залессе і інш.; але: Ілья, *Емяльян, Касьян, Ульян, Ульяна, Юльян, Традзьякоўскі* і вытворныя ад іх: *Ільін, Ільіч, Ульянаўск* і інш.

## § 18. Змякчальны мяккі знак

1. Мяккі знак пішацца пасля зычных ***з, л, н, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** (з мяккага ***д***):

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага на канцы слова: *мядзведзь, дзень, пісаць, соль, вось, лезь;*

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым зычным: *дзядзька, касьба, дзьмухавец*;

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад наступным мяккім зычным тады, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) гэты мяккі зычны становіцца цвёрдым, а папярэдні зычны захоўвае сваю мяккасць: *барацьбе (барацьба), пісьменнік (пісьмо), цьмяны (цьма).* Калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) мяккасць зычных не захоўваецца, то мяккасць зычнага перад наступным мяккім зычным на пісьме мяккім знакам не абазначаецца: *дзве – два, шэсць – шосты, звінець – звон.*

2. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у дзеясловах загаднага ладу:

перад канчаткам першай асобы множнага ліку ***-ма***: *кіньма, станьма, сядзьма*;

перад канчаткам другой асобы множнага ліку ***-це***: *будзьце, кіньце, сядзьце;*

перад зваротнай часціцай ***-ся***: *кінься, звесься.*

3. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку ***-мі***: *коньмі, людзьмі, грудзьмі.*

4. Мяккі знак пішацца:

у складаных лічэбніках: *пяцьдзесят, шэсцьсот, дзевяцьсот*;

у часціцы ***-сьці***, якая ўваходзіць у склад слова: *штосьці, чагосьці, кудысьці, дзесьці, чамусьці, якісьці;*

у слове *ледзьве.*

5. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці [***л***] перад зычнымі*: пальцы, бразільскі (Бразілія), уральскі (Урал).*

6. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці [***н***]:

перад суфіксам ***-к-***, а таксама перад суфіксам ***-чык-*** (калі слова без суфікса ***-чык-*** заканчваецца мяккім знакам): *песенька, вішанька, праменьчык (прамень)*;

перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў, якія заканчваюцца мяккімі [***н'***], і назоўніка ***восень***: *студзеньскі, ліпеньскі, восеньскі,* а таксама ў суадносных уласных назвах: *Чэрвеньскі раён, Ліпеньская школа*;

у суфіксе ***-еньк- (-эньк-, -аньк-)***: *маленькі, даражэнькі, прыгожанькі.*

7. Мяккі знак не пішацца:

пасля шыпячых (***ж, дж, ц, ш***), ***р, ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д, т***, а таксама пасля губных ***б, в, м, п, ф***: *дождж, ноч, мыш, цар, купец, голуб, п'едэстал, сям'я, В'етнам, верф;*

пасля ***з, с, ц, дз*** перад мяккімі зычнымі, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) нельга паставіць гэтыя ***з, с, ц,***

***дз*** перад цвёрдым зычным: *песня – песні – песнямі, звер – зверам – звяроз, свет – свяціць – асвятленне, дзверы – дзвярэй, чацвер – чацвяргом; схіліцца, ёсць, Дзвіна*;

пры падаўжэнні зычных: *насенне, галлё, калоссе*, а таксама падваенні: *ззяць*;

у прыметніках з суфіксам ***-ск-***, утвораных ад назоўнікаў на ***-нь***: *конскі (конь), любанскі (Любань), цянь-шанскі (Цянь-Шань).*

## § 19. Раздзяляльны мяккі знак і апостраф

1. Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля зычных ***л, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** і непрыставачных ***н*** і ***з*** перад ***е, ё, і, ю, я*** ў словах іншамоўнага паходжання: *вальера, рэльеф, канферансье, Нью-Ёрк, каньяк.*

2. Ва ўласных імёнах і назвах, утвораных ад імён на ***-ій (-ый)***, пасля зычных ***л, с, ц, дз, н, з*** перад суфіксальным ***-еў- (-ев-)*** пішацца мяккі знак: *Васільеў, Кандрацьеў, Аркадзьевіч.*

3. Пасля ***г, к, х*** і збегу зычных, акрамя ***нц***, перад суфіксальным ***-еў- (-ев-)*** пішацца ***і (ы)***: *Георгіеў, Георгіевіч, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч*; але: *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч* і інш.

4. Апостраф пішацца пры асобным вымаўленні зычных з наступным галосным:

пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную, перад ***е, ё, ю, я*** і націскным ***і***: *ад’езд, аб’ём, аб’ява, раз’юшыць, аб’інець*;

у сярэдзіне слова пасля губных ***б, в, м, п, ф,*** заднеязычных ***г, к, х,*** зубных ***д, т*** і дрыжачага ***р*** перад літарамі ***е, ё, і, ю, я***: *б’ецца, вераб’і, В’етнам, п’юць, саф’ян, Аж’е, Грыгор’еў, Мар’іна Горка;*

у складаных словах з першай часткай ***двух-, трох-, чатырох-, шмат-*** перад літарамі ***е, ё, ю, я***: *двух’ярусны, трох’ярусны, шмат’ядзерны.*

5. Апостраф не пішацца:

пасля ***ў*** (у нескладовага) перад літарамі ***е, ё, і, ю, я***: *абаўюцца, саўюць, салаўі;*

у складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку калі іх часткі пішуцца праз злучок: *цэхячэйка, дзяржюрвыдавецтва, трэд-юніёны.*

## ПРАВАПІС АБРЭВІЯТУР

### § 20. Правапіс абрэвіятур

1. У абрэвіятурах скарочаныя часткі пішуцца так, як у адпаведных поўных словах: *гарсавет (гарадскі савет), галоўурач (галоўны), генплан (генеральны), прафкам (прафсаюзны камітэт), ваенкам (ваенны камісар), гарвыканкам (гарадскі выканаўчы камітэт), член-кар. (член-карэспандэнт), інтэрпал (інтэрнацыянальная паліцыя), лінкар (лінейны карабель).*

2. Літарныя, гукавыя абрэвіятуры і абрэвіятуры змешанага тыпу звычайна пішуцца вялікімі літарамі без кропак, злучкоў і апострафаў: *ГрДМУ (Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт), УА (установа адукацыі), МАЗ (Мінскі аўтамабільны завод).*

Калі да абрэвіятуры дадаецца лічба, то яна пішацца праз злучок: *ВАЗ-21, МАЗ-200, МТЗ-82.*

Калі абрэвіятура скланяецца, канчаткі пішуцца разам малымі літарамі: *у нашым ЖЭСе, дысертацыя ў ВАКу, рамонт ГУМа.*

Дапускаецца напісанне малымі літарамі агульнавядомых абрэвіятур, калі слова ўспрымаецца як простае: *схадзіў у жэс* і інш.

Малыя літары могуць уваходзіць у камбінаваныя абрэвіятуры: *ЛіМ, БелТА, УП “Белкніга”.*

3. Напісанне няўласнабеларускіх (запазычаных) абрэвіятур вызначаецца па слоўніку; поўны сэнсавы беларускі адпаведнік перадае значэнне такіх запазычанняў, а не расшыфроўвае іх: *завуч* (намеснік па вучэбнай рабоце), *спецназ* (атрад спецыяльнага

прызначэння), *ЮНЕСКА* (Камісія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры).

4. У некаторых абрэвіятурах напісанне можа не адлюстроўваць натуральнае вымаўленне: *ТЮГ – Тэатр юнага гледача* (вымаўляецца [*ц'ух*]), *РІВШ – дзяржаўная ўстанова адукацыі "Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы"* (вымаўляецца [*рыўш*]).

5. Літаратурныя абрэвіятуры не трэба блытаць з умоўнымі графічнымі скарачэннямі, якія ўжываюцца на пісьме, але заўсёды чытаюцца поўнасцю.

Скарачэнне слоў рэгламентуецца наступнымі правіламі:

нельга скарачаць на галосную літару, на ***ь***, на ***й*** і на ***ў***;

пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай: *насен. фонд*;

пры збегу дзвюх або некалькіх зычных скарачэнне робіцца на апошнюю зычную: *народн. творчасць*;

калі імя або імя па бацьку пачынаецца з дыграфа ***Дз***, то ініцыялам выступае толькі літара ***Д***: *Дзмітрый Дзмітрыевіч – Д.Д.*

Пры графічных скарачэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя ж знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы поўнаму напісанню: *В.-Д. к. (Волга-Данскі канал), чл.-кар. (член-карэспандэнт).*

6. Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак: *га (гектар), см (сантыметр), кг (кілаграм), км (кіламетр)* і інш.

Ніжэй прыводзяцца агульнапрынятыя скарачэнні, якія не патрабуюць спецыяльнага тлумачэння.

Напрыклад:

*акад. – акадэмік;*

*б. – былы;*

*бухг. – бухгалтэрыя;*

*в. – вёска*

*в.а. – выконваючы абавязкі;*

*в-аў – востраў;*

*вобл. – вобласць;*
*воз. – возера;*
*г. – год;*
*г. – горад;*
*гг. – гады;*
*г.зн. – гэта значыць;*
*гл. – глядзі;*
*гр. – грамадзянін;*
*дац. – дацэнт;*
*заг. – загадчык;*
*зб. – зборнік;*
*і г.д. – і гэтак далей;*
*і да т.п. – і да таго падобнае;*
*і інш. – і іншае;*
*і пад. – і падобнае;*
*нам. – намеснік;*
*напр. – напрыклад;*
*н.ст. – новы стыль;*
*н.э. – наша эра;*
*парайн. – параўнанне;*
*п-аў – паўвостраў;*
*праф. – прафесар;*
*р. – рака;*
*р-н – раён;*
*руб. – рубель;*
*р. – старонка;*
*с.-г. – сельскагаспадарчы;*
*сс. – старонкі;*
*с/с – сельскі савет;*
*ст. – стагоддзе;*
*ст.ст. – стары стыль;*
*т. – том;*
*тав. – таварыш;*
*т-ва – таварыства;*
*т.зв. – так званы;*
*тт. – тамы.*

## § 21. Правапіс прыставак

1. Да прыставак **аб-, ад-, над-, пад-, раз- (рас-), с (з-), уз- (ус-)** пры спалучэнні з марфемамі, якія пачынаюцца збегам зычных, далучаецца дадатковае **а**: *абарваць (абрываць), адаспаць (адсыпацца), сарваць (зрываць).* Дапускаецца напісанне ўстаўнога а для раздзялення двух губных гукаў: *абабягаць, абаперціся.*

2. У словах **расол, расольнік, расада, расаднік** (месца, скрынка для вырошчвання расады) адбылося сцяжэнне гукаў, і таму яны пішуцца з адной літарай **с**.

3. У прыстаўках **з-, із-, уз-, раз-, без-, небез-, абез-, праз-, цераз-** літара з пішацца перад звонкімі, санорнымі зычнымі і ётаванымі галоснымі (перад апострафам): *збіць, ізной, узняць, небязгрэшны, абяз'ёдаваць, без'языкі.* У слове **разявіць** і вытворных ад яго, а таксама ў словах **узлаваць і ўзлавацца** адбылося сцяжэнне [**з**] – прыстаўкі і [**з**] – кораня.

У тых жа прыстаўках замест літары **з** пішацца с перад глухімі зычнымі: *скінуць, сіпыты, усхваляваць, беспадстаўны, абясшкодзіць, цераспалосіца, росшукі, росчырк.*

Калі корань слова пачынаецца з галосных **а, у, э** або ненаціскнога **і**, якое пераходзіць у **ы**, замест прыстаўкі **з-** пішацца прыстаўка **с-**: *сарганізаваць, сумысна, сэканоміць, сыграць*; але: *зымправізаваць, зыначыць.*

4. У словах, утвораных ад дзеясловаў **ісці, хадзіць,** прыстаўкі на **з-** пішуцца ў залежнасці ад лексічнага значэння: *зысці – сысці, зысціся – сысціся, зыходзіць – сыходзіць, зыходны – сходны, зыход – сход.*

5. У прыстаўцы **дыз-** перад галоснымі (у тым ліку ётаванымі) пішацца **з**, а перад зычнымі – **с**: *дызасацыяцыя, дыз'юнкцыя, дысгармонія, дыскамфорт.*

6. Прыстаўка **дэз-** пішацца нязменна: *дэзактывацыя, дэзынфекцыя, дэзынтэграцыя.*

7. Спалучэнні літар **сч, сш, сшч, зж, здж** на стыку прыстаўкі і кораня перадаюцца нязменна: *расчахляць, счапіць, зжыцца, зджаліць.*

Выключэнні: **рашчыніць** (паставіць цеста), **ушчуваць, нішчымны**, а таксама вытворныя ад іх: *рошчына, ушчуванне, ушчунак, нішчымніца.*

8. Пры спалучэнні прыставак (**аб-, ад-, над-, пад-, раз-, з- (с-), уз-, спад-, перад-, дэз-, суб-**) са словамі, што пачынаюцца з **і**, у адпаведнасці з вымаўленнем замест **і** пішацца **ы**: *абыграць, сыграць, субынспектар, дэзынфармацыя.*

Пасля прэфіксоідаў (**звыш-, міэ-, пан-, супер-, транс-, контр-**) **і** захоўваецца: *звышімклівы, міжінстытуцкі, панісламізм, контрігра, суперінтэлект, трансіндыйскі.*

У складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае і другога слова пішацца нязменна: *медінстытут, дзяржінспектар, санінструктар.*

Прэфіксоід **экс-** пішацца праз злучок, і **і** не пераходзіць у **ы**: *экс-інжынер, экс-імператар.*

Некаторыя словы з коранем **-ход-** маюць варыянтныя формы: *адыходлівы – адходлівы, адыходы – адходы.*

## ПРАВАПІС ВЯЛІКАЙ І МАЛОЙ ЛІТАР

### § 21. Агульныя правілы правапісу вялікай і малой літар

1. З вялікай літары пішуцца:

першае слова ў сказе: *Былі пагодныя дні. З сонцам ад рання да вечара, з сінім небам* (І. Мележ).

першае слова пасля клічніка, якім выдзяляецца зваротак, а таксама выклічнік у пачатку сказа: *Зямля Беларусі! Табой мы сагрэты, ніколі не сходзіш ты з нашых вачэй* (П. Броўка).

першае слова ва ўстаўных сказах-рэмарках, якія падаюцца ў дужках у пачатку тэксту і пасля кропкі, клічніка, пытальніка і шматкроп'я ў канцы сказа: Г а р л а х в а ц к і. *Не толькі сакрэт, а дзяржаўная тайна.* (Ідзе ў свой кабінет.) (К. Крапіва). С ы м о н. *Калі пытаюся, то няхай кажа!* (Да Данілкі) *Ну! Чуеш ці не?* (Я. Купала).

2. Па традыцыі з вялікай літары пачынаецца кожны новы радок (першае слова) у вершаваных тэкстах:

*Дагарэў за брамай небакрай,*
*Месяц паміж воблачкаў плыве,*
*Выйду зноў, як у мінулы май,*
*Басанож прайдуся па траве.*

(У. Караткевіч).

3. Па традыцыі з вялікай літары пішацца першае слова пасля двукроп'я:

у пачатку простай мовы: *Ён падумаў: "Ніхто цябе не бачыць, ніхто не ведае, якая ты слаўная і мілая, - і дадаў: - Дурні яны!"* (Я. Колас);

У пачатку цытаты, якая з'яўляецца самастойным складам: *П. Глебка з поўнай падставай пісаў: "Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў"* (ЛіМ);

У сцвярджальнай частцы пастановы, рэзалюцыі, пратакола, акта і іншага рашэння.

Напрыклад:

*Пастанавілі:*

*Зацвердзіць справаздачу рэвізійнай камісіі аб фінансавай дзейнасці прафкама (з пратакола прафсаюзнага сходу)*

*З арыгіналам згодна:*

*Сакратар выканкама* (подпіс) (з копіі дакумента).

4. Калі цытата ўключаецца ў просты ці складаны сказ у якасці яго граматычнай часткі, тады яна пачынаецца з малой літары: *Якуб Колас справядліва ўказваў, што "родная мова – гэта першая крыніца,*

*праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет”* (ЛіМ).

5. Пішуцца з малой літары:

першае слова пасля шматкроп’я, каля яно стаіць у сярэдзіне сказа і абазначае прыпыненне ў маўленні: *Зямля… зямля… туды, туды, брат, будуй яе… ты дай ёй выгляд…* (Я. Колас);

першае слова ў сярэдзіне сказа пасля шматкроп’я, якое абазначае, што частка гэтага сказа апушчана: *З невялікай і чысай крыніцы лірычнага пачуцця… пачынаецца раман-паэма аб жыцці простага люду* (А. Адамовіч);

першае слова пасля клічніка, калі ён стаіць у сярэдзіне сказа: *І кожны, хто мяне спытае, пачуе толькі адзін крык: што хоць мной кожны пагарджае, я буду жыць! – бо я мужык!* (Я. Купала);

першае слова ў словах аўтара, якія ідуць пасля простай мовы з клічнікам, пытальнікам або шматкроп’ем: *“Надзя! Надзейка!..” – кліча жалейка* (П. Броўка). – *У школу я больш не пайду!.. – Як гэта – не пайду? А куды ты пойдзеш? – абурыўся Сяргей* (І. Шамякін);

першае слова ў рэмарках да слоў дзейнай асобы, калі рэмарцы не папярэднічаюць кропка, клічнік, пытальнік ці шматкроп’е: Г а р л а х в а ц к і. *А можа, і праўда бландзінка. Значыць, яна гэта самае* (круціць рукой каля валасоў) *пабландзінілася, а я і не заўважыў* (К. Крапіва).

## § 22. Вялікая і малая літары ў асабовых назвах

1. З вялікай літары пішуцца:

імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, мянушкі, а таксама дадатковыя азначэнні пры гэтых назвах: *Іван, Янка, Ясь, Яська; Алаіза Пашкевіч (Цётка); Казімір Чацвёрты Ягелончык, КірылаТураўскі; Дон Жуан, Нестар Летапісец*;

кожнае імя ў састаўных імёнах і прозвішчах, калі яны пішуцца асобна або праз *злучок: Эрых Марыя Рэмарк, Марыя-Луіза-жазэфіна; Вікенцій Дунін-Марцінкевіч*;

прозвішчы а таксама імёны ў множным ліку, калі яны выступаюць як назвы роду, групы асоб, ці ўжываюцца ў значэнні агульнай назвы: *Міцкевічы, браты Гарэцкія, маёнтак Тышкевічаў, Род Радзівілаў, бязродныя Іваны*; *Гагарыны, Заслонавы*;

часткі састаўных асабовых імёнаў кітайцаў, карэйцаў, в'етнамцаў, бірманцаў, інданезійцаў, тайландцаў, цэйлонцаў, японцаў: *Ван Янмінь, Сунь Ятсен* (Кітай); *Ан Чхан Хо, Пак Ін Но* (Карэя); *Нгуен Фук Ань, Нгуен Чай* (В'етнам); *Пі Маў Нін, Такін Кода Хмайн* (Бірма); *Султан Такдыр, Алішахбана, Утуі Тутанг Сантані* (Інданезія); *Нулаб Сайпрадыт, П'я Тасін* (Тайланд); *Карахара Карахіта* (Японія);

пачатковыя часткі **Ібн, Бен, Шах-, Мак-, Сан-, Сант-, Сен-, Сент-, Тэр-** у іншамоўных асабовых імёнах, якія пішуцца асобна, разам або далучаюцца да іх праз злучок, а таксама пачатковыя **О', Д'**, якія пішуцца праз апостраф: *Ібн Сіна, Бен Алі, Шах-Джахак, Мак-Доўэл, Сан-Мартын, Сант-Эліё, Сент-Жуст, Сент-Эцьен, Тэр-Петрасян, О'Генры, Д'аламбер, Д'Артаньян*;

клічкі жывёл, птушак і іншых істот: конь *Рудзік*, карова *Красуля*, сабака *Рэкс*, кот *Кузя*, курыца *Рабка*, папугай *Гоша*;

прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад асабовых імён і клічак жывёл, мянушак пры дапамозе суфіксаў **-ов-, -оў (-ав-, -аў), -ёв-, - ёў, (-ев-, еў), -ын-, -ін-**: *Кузьмоў* сусед, *Скарынавы* выданні, *Багдановічаў* верш, *Зосьчыны бацькі*, *Рагуліна* малако;

адносныя праметнікі, утворакныя ад імён і прозвішчаў, псеўданімаў, калі такія прыметнікі ўваходзяць у склад састаўных уласных назваў: *Купалаўская прэмія* (прэмія імя Янкі Купалы), *Нобелеўская прэмія, Коласаўская стыпендыя* (стыпендыя імя Якуба

Коласа), *Гарэцкія чытанні* (чытанні, прысвечаныя Максіму Гарэцкаму), *Варфаламееўская ноч* (гістарычная падзея ў Парыжы ў ноч святога Варфаламея), *Маркаўскія рады* (тэрміналагічная назва ў матэматыцы).

2. З малой літары пішуцца:

агульныя назвы людзей, прадметаў, рэчываў і хімічных элементаў, адзінак вымярэння, якія ўтварыліся на аснове асабовых і геаграфічных назваў: *донжуан (быў донжуанам), донкіхот (такі донкіхот), эскулап*; *бефстроганаў, дызель, форд; морфій, уран, фермій*; *ампер, вольт, джоўль*;

асабовыя назвы (прозвішчы, імёны і інш.) у форме множнага ліку, калі іх ужыванне выяўляе пагардлівыя, зневажальныя адносіны: *гарлахвацкія, кручковы, пісулькіны*;

назвы чалавека, утвораныя ад асабовых імёнаў, якія ўжываюцца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў з назоўнікамі (фразеалагізмаў) або ў складзе састаўных агульных назваў са значэннем адпаведнай адноснай прыкметы: *эзопаўская (эзопава) мова, пірава перамога, ахілесава пята, купалаўскі верш, сідарава каза*;

часткі **ван, да, дзі, дзю, дон (донна), дэ, дэр, ла, ле, фон, эль** і некаторыя іншыя ў іншамоўных асабовых назвах: *Людвіг ван Бетховен, Леанарда да Вінчі, ле Карбюзье, дон Фердынанд*; але ў асабовых назвах літаратурных герояў (*Дон Кіхот, Дон Хуан*), а таксама ў некаторых выпадках у прозвішчах і імёнах пішуцца з вялікай літары: *Дзі Віторыё, Ван Гог, Эль Грэка*;

часткі **ага, ад, ал, ас, ар, аш, бей, бек, задэ, аглы, уль, зуль, кызы, аль, паша, хан, шах, эд, эль** і некаторыя іншыя ў іншамоўных асабовых назвах, якія падаюцца звычайна пасля назвы або перад ёй і пішуцца праз злучок: *Ібрагім-ага, Амар аш-Шарыф, Ібрагім-бей, Амад-задэ, Кёр-аглы, Сейф уль-Іслам, Зульфія-кызы, Амад эд-Дзін, Седах зуль-Факар, Сулейман-паша, Махамед эль-Куні* і інш.

## § 23. Вялікая і малая літары ў найменнях асоб, звязаных з рэлігіямі, назвах міфалагічных і казачных герояў

1. З вялікай літары пішуцца:

найменні найвышэйшых божастваў (бостваў) у рэлігійных культах, а таксама ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя назвы: *Бог, Саваоф, Алах, Шыва, Яхве, Вішну; Госпад (Госпадзь), Усявышні, Святая Троіца, Бог Айцец, Божы (Боскі) Сын, Святы Дух, Прачыстая Троіца, Царыца Нябесная, Месія*;

прыметнікі, утвораныя ад слова **Бог**: *Божы (Боскі) суд, Божы (Боскі) храм*;

асабовыя імёны (і ўсе словы ў састаўных асабовых назвах, акрамя агульных назваў) заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, а таксама біблейскіх асоб (апосталаў, прарокаў, святых і інш.): *Ісус Хрыстос, Буда, Брахма; Іаан Хрысціцель, Святы Павел*;

імёны легендарных і міфічных асоб, язычніцкіх багоў: *Антэй, Зеўс, Дажбог, Пярун*, але як агульныя назвы: *пярун* – удар грому, *іуда (юда)* – здраднік, *тытан* – волат;

уласныя назвы ўяўных і казачных істот, герояў літаратурных твораў: *Папялушка, Дзед Мароз, Калабок, Баба Яга,* але як агульныя назвы: *дзед-мароз – ёлачнае ўпрыгожанне, баба-яга – агідная старая*;

агульныя назвы істот, а таксама з'яў і прадметаў, калі яны персафінікуюцца, выступаюць у ролі імёнаў герояў літаратурных твораў (у казках, байках і інш.): *Мядзведзь, Каза-дзераза, Крыўда* і інш.

2. З малой літары пішуцца:

слова **бог (гасподзь)** ва ўстойлівых выразах, звязаных з выказваннем розных пачуццяў у прастамоўі, а не са зваротам да Бога паводле рэлігійнай абраднасці і ўяўленняў: *бог яго ведае, дай божа, крый божа, дзякуй богу, алах з ім*;

слова **бог** з агульным значэннем боства ў спалучэнні з асабовай назвай або з назоўнікам з агульным значэннем у родным склоне: *старажытны славянскі бог Пярун, Сварог – бог неба*;

агульныя назвы ўяўных істот: *архангел, анёл, лясун* і інш.

## § 24. Вялікая і малая літары ў геаграфічных і астранамічных назвах

1. З вялікай літары пішуцца:

уласныя назвы прыродных геаграфічных аб'ектаў, кантынентаў, гор, рэк, азёраў, лясоў, балот і інш.: *Еўразія, Альпы, Везувій, Нёман, Нарач, Гобі, Ельня*;

уласныя назвы краін, іх аб'яднанняў і частак, паселішчаў і іх частак, урочышчаў: *Беларусь, Бенілюкс, Антанта, Орша, Вязынка, Зялёны Луг*;

уласныя назвы астранамічных аб'ектаў: *Андрамеда, Сонца, Месяц*;

назвы напрамкаў свету ў пераносным значэнні назваў адпаведнай групы краін або тэрыторый: *Захад* (краіны заходняй часткі Еўропы разам з ЗША), *Усход* (азіяцкія краіны), *народы Поўначы*;

пачатковая службовая частка ў іншамоўных уласных геаграфічных назвах, якая пішацца з імі праз злучок: *Дан-Лэры* (горад), *Ла-Пампа* (правінцыя), *Ла-Манш* (праліў), *Лос-Анджэлес* (горад);

іншамоўныя родавыя агульныя назвы ў складаных уласных геаграфічных назвах: *Рыа-Грандэ* (*рыа* – рака), *Лоб-Нор* (*нор* – возера), *Пуэрта-Рыка* (*пуэрта* – порт);

часткі складаных уласных геаграфічных назваў, што пішуцца праз злучок (назоўнікі, прыметнікі): *Аўстра-Венгрыя, Давыд-Гарадок, Буда-Кашалёва, Картуз-Бяроза*;

першае слова ў састаўных уласных геаграфічных і астранамічных назвах: *Атлантычны акіян, Белае возера, Палярная зорка*;

усе часткі складанага прыметніка ў састаўных уласных назвах, калі такія часткі пішуцца праз злучок: *Азіяцка-Ціхаакіянскі рэгіён, Паўночна-Заходні край, Дняпроўска-Бугскі* канал;

усе знамянальныя словы ў афіцыйных уласных назвах дзяржаў і іх аб'яднанняў: *Рэспубліка Беларусь, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае*;

усе знамянальныя словы ў вобразных састаўных уласных геаграфічных назвах, калі гэтыя ўласныя назвы ўжываюцца без агульнай родавай назвы: *Блізкі Усход, Крайняя Поўнач, Старыя Дарогі* (горад), *Дзікі Захад* (у ЗША); у назоўным і родным склонах у спалучэнні з агульнай родавай назвай: *туманнасць Конская Галава, праліў Матачкін Шар; мыс Добрай Надзеі, заліў Святога Лаўрэнція.*

2. З малой літары пішуцца:

агульныя родавыя назвы геаграфічных, астранамічных і іншых падобных аб'ектаў у складзе ўласных назваў: *Афрыканскі кантынент, рака Вілія, плошча Перамогі, Князь-возера*;

службовыя часткі ў складзе састаўных уласных геаграфічных найменняў: *Франкфурт-на-Майне, Па-дэ-Кале, Дар-эс-Салам, Салам-і-Гомес.*

## § 25. Вялікая і малая літары ў назвах дзяржаўных органаў і іншых арганізацый

1. З вялікай літары пішуцца:

усе словы ў найменнях вышэйшых органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады Рэспублікі Беларусь і іншых краін: *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь*; але: *Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, Палата*

*прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*;

першае слова ў найменнях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых арганізацый: *Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь* (*Мінэканомікі*), *Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Гродзенскі абласны (гарадскі, раённы) выканаўчы камітэт, Міжнародны алімпійскі камітэт*;

простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый: *Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы, Таварыства Чырвонага Крыжа, Міжнародны суд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый*;

слова **Савет** у значэнні органа ўлады: *Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў*; але: *сельсавет*;

словы **Дом, Палац**, якія пачынаюць найменне ўстановы: *Дом культуры, Палац спорту*; але: *Зімовы палац, дом адпачынку*.

2. З малой літары пішуцца найменні аддзелаў і іншых падраздзяленняў навуковых і адукацыйных устаноў, іх органаў кіравання, а таксама словы тыпу калегія, вучоны савет, навукова-метадычны савет, савет па абароне дысертацый, факультэт, аддзяленне, сектар, група: *вучоны савет медыка-псіхалагічнага факультэта, савет па абароне дысертацый, калегія Міністэрства аховы здароўя, кафедра беларускай мовы*; але: *Агульны сход Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Аддзяленне медыцынскіх навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

## § 26. Вялікая і малая літары ў найменнях пасад і званняў, ветлівых зваротах і спецыяльных абазначэннях

З вялікай літары пішуцца:

словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Кароль Іярданіі, Імператар Японіі, Папа Рымскі, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, Далай-Лама.* У неафіцыйным ужыванні словы **прэзідэнт, старшыня, кароль, імператар** пішуцца з малой літары: *візіт прэзідэнта, выступленне старшыні, прыём у караля, загад імператара*; але: *выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*;

словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь і іншых краін (акрамя слова **кавалер**): *Герой Беларусі, Герой Савецкага Саюза, кавалер ордэна Ганаровага Легіёна*;

у розных афіцыйных пасланнях, лістах займеннік **Вы** як форма ветлівага звароту да адной асобы;

у высокім стылістычным ужыванні такія агульныя назвы, як *Радзіма, Айчына, Бацькаўшчына, Чалавек, Маці, Настаўнік* і інш.;

словы ў назвах бакоў у пагадненнях, кантрактах і іншых дагаворах: *Высокія Дагаворныя Бакі, Заказчык і Выканаўца, Аўтар і Выдавецтва.*

## § 27. Вялікая літара ў назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, рэліквій, дзяржаўных узнагарод, прэмій, грамат, прызоў

З вялікай літары пішуцца:

усе словы ў назвах дзяржаўных і нацыянальных, ваенных і культурных рэліквій: *Сцяг Перамогі, Крыж Ефрасінні Полацкай, Курган Славы, Вострў Слёз*;

усе словы ў поўных назвах ордэнаў і медалёў (акрамя слоў **медаль, ордэн і ступень**): *медаль "Залатая Зорка" Героя Савецкага Саюза, ордэн Айчыны I (II, III) ступені, ордэн Маці; але: ордэн Дружбы народаў*;

першае слова ў назвах дзяржаўных сімвалаў, дзяржаўных і міжнародных прэмій, грамат, прызоў і інш.: *Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь, Ганаровая грамата Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Міжнародная прэмія Міру, Нобелеўская прэмія, Кубак свету.*

## § 28. Вялікая і малая літары ў назвах дакументаў, іх зводаў, унікальных прадметаў, твораў

1. З вялікай літары пішуцца:

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах важнейшых дзяржаўных і міжнародных дакументаў, пагадненняў, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, іх зводаў: *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі", Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб узнагароджанні мнагадзетных маці ордэнам Маці", Статут Вялікага Княства Літоўскага, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека; але распараджэнне (пратакол даручэнняў) Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадметаў мастацтва і іншых адзінкавых і ўнікальных прадметаў, твораў, іх зводаў: *Дзевятая сімфонія Бетховена, Венера Мілаская,*

*Янтарны пакой, Біблія, Стары Запавет, Каран, Талмуд.*

2. З малой літары пішуцца агульныя назвы стыляў у мастацтве і архітэктуры: *барока, ракако, готыка, ампір, мадэрн.*

## § 29. Вялікая і малая літары ў назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, святаў

1. З вялікай літары пішуцца:

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох: *Варфаламееўская ноч, Адраджэнне, Крыжовыя паходы, Першая сусветная вайна*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах дзяржаўных, традыцыйных і рэлігійных святаў: *Дзень Перамогі, Новы год, Дзень медыка, Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі), Нараджэнне Хрыстова, Ушэсце Гасподнае, Уваскрэсенне Хрыстова, Вялікая субота, Таццянін дзень, Радаўніца, Вялікдзень, каляды, Купалле, Рамадан.*

2. З малой літары пішуцца назвы родаў і відаў знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, асобных гадоў, дзён і інш.: *імперыялістычная вайна, кайназойская эра, неаліт, эпоха феадалізму, залаты век, высакосны год, дзень адчыненых дзвярэй, санітарны дзень.*

## § 30. Вялікая літара ў назвах з двукоссем

З вялікай літары пішуцца ў двукоссі:

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах арганізацый: *адкрытае акцыянернае таварыства "Камунарка", кафэ "Світанак", медыцынская служба "Хуткая дапамога",*

*установа адукацыі “Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт”*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах перыядычных выданняў, кніг, атласаў, карт і інш.: *часопіс “Полымя”, газета “Звязда”, летапіс “Хронікі Быхаўца”*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах літаратурных, публіцыстычных, навуковых твораў, твораў розных галін мастацтва і інш.: *паэма Якуба Коласа “Новая зямля”, песня “Ой, рэчанька”, акварэль Г.Ю. Тарасікава “Букет бэзу”, танец “Лявоніха”*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадметаў побыту, прамысловых і прадуктовых тавараў: *набор мэблі “Вязынка”, хлеб “Спадар”, сыр “Нарач”*;

назвы вытворчых марак тэхнічных вырабаў (машын, механізмаў, прылад, збудаванняў і інш.) бяруцца ў двукоссе і пішуцца з вялікай літары: *аўтамабіль “Жыгулі”, трактар “Беларус”, тэлевізар “Гарызонт”*. Назвы саміх вырабаў (акрамя назваў, што супадаюць з асабовымі і геаграфічнымі назвамі) пішуцца ў двукоссі з малой літары: *“масквіч”, “вольва”, “боінг”* (самалёт); але: *“Мінск”* (халадзільнік), *“Волга”* (аўтамабіль).

## СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ

Змяненне слова па склонах называецца скланеннем. Таксама скланеннем называюцца словы, аб’яднаныя агульнасцю змянення назоўнікаў па склонах. Узгадаем парадак склонаў у беларускай мове і пытанні да кожнага з іх.

| | | |
|---|---|---|
| Назоўны склон | : | хто? што? |
| Родны склон | : | каго? чаго? |
| Давальны склон | : | каму? чаму? |

Вінавальны склон : каго? што?
Творны склон : кім? чым?
Месны склон : аб кім? аб чым?

У залежнасці ад канчаткаў у назоўным склоне адзіночнага ліку і граматычнага роду назоўнікі адносяцца да 1, 2 ці 3-га скланення.

Да першага скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткам **-а(-я)**: *сцяна, доля, рука, армія*[1].

Да другога скланення адносяцца:

- назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам: *лес, конь;*
- назоўнікі ніякага роду з канчаткамі **-о(-ё), -а, -е**: *галлё, неба;*
- пяць назоўнікаў на **-мя**: *семя, цемя, бярэмя, вымя, полымя.*
- Да трэцяга скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам: *печ, радасць.*
- Не адносяцца ні да аднаго з тыпаў скланення:
- рознаскланяльныя назоўнікі: *бацька, жарабя, імя;*
- нескланяльныя назоўнікі: *кафэ, адажыо, метро;*
- назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку: *нагавіцы, дзверы, нажніцы;*
- назоўнікі, утвораныя з прыметнікаў: *хворы, рабочы, малады.*

## Назоўнікі першага скланення

| Склоны | Аснова на мяккі зычны | Аснова на цвёрды зычны | Аснова на зацвярдзелы зычны |
|---|---|---|---|
| Н. | доля | сасна | шаша |
| Р. | долі | сасны | шашы |
| Д. | долі | сасне | шашы |
| В. | долю | сасну | шашу |

[1] Некаторыя навукоўцы да першага скланення аднosяць і назоўнікі мужчынскага роду з канчаткам **–а (-я)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Т. | доляй (-яю) | сасной (-ою) | шашой (-ою) |
| М. | (аб) долі | (аб) сасне | (на) шашы |

| **Склоны** | **Аснова на г, к, х** | | |
|---|---|---|---|
| Н. | дарога | палка | муха |
| Р. | дарогі | палкі | мухі |
| Д. | дарозе | палцы | мусе |
| В. | дарогу | палку | муху |
| Т. | дарогай (-аю) | палкай (-аю) | мухай (-аю) |
| М. | (на) дарозе | (на) палцы | (аб) мусе |

## Назоўнікі другога скланення

| **Склоны** | **Аснова на цвёрды зычны** | | | **Аснова на зацвярдзелы зычны** | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | брат | слуп | град | вецер | гора |
| Р. | брата | слупа | граду | ветру | гора |
| Д. | брату | слупу | граду | ветру | гору |
| В. | брата | слуп | град | вецер | гора |
| Т. | братам | слупам | градам | ветрам | горам |
| М. | (аб) брату | (на) слупе | (аб) градзе | (аб) ветры | (аб) горы |

| **Склоны** | **Аснова на мяккі зычны** | | **Аснова на г, к, х** | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | дзень | стрэмя | кіраўнік | мурог | кажух |
| Р. | дня | стрэмя | кіраўніка | мурагу | кажуха |
| Д. | дню | стрэмю | кіраўніку | мурагу | кажуху |
| В. | дзень | стрэмя | кіраўніка | мурог | кажух |
| Т. | днём | стрэмем | кіраўніком | мурагом | кажухом |
| М. | (аб) дні | (у) стрэмі | (пры) кіраўніку | (на) мурагу | (у) кажусе |

У родным склоне адзіночнага ліку большасць назоўнікаў 2-га скланення мае канчатак **-а(-я)**: *агарода, каня, мора.*

Назоўнікі мужчынскага роду маюць канчатак **-у(-ю)**, калі абазначаюць:

а) з’явы прыроды: *грому, дажджу;*

б) зборныя прадметы: *гароху, натоўпу;*

в) хімічныя элементы, рэчывы, матэрыялы: *кіслароду, воцату, бетону, але хлеба, айса;*

г) дзеянні: *свісту, шуму;*

д) разумовыя паняцці, пачуцці, адчуванні: *жалю, болю, розуму;*

е) грамадскія фармацыі, тэорыі, вучэнні: *капіталізму, ніцшыянству.*

Назоўнікі 2-га скланення, якія абазначаюць асобу чалавека, у месным склоне маюць канчатак **-у(-ю)**: *пры мараку, аб студэнту.*

## Назоўнікі трэцяга скланення

| **Склоны** | **Аснова на мяккі і цвёрды зычны** | | **Аснова на зацвярдзелы зычны** |
|---|---|---|---|
| Н. | годнасць | верф | печ |
| Р. | годнасці | верфі | печы |
| Д. | годнасці | верфі | печы |
| В. | годнасць | верф | печ |
| Т. | годнасцю | верф’ю | печчу |
| М. | (аб) годнасці | (на) верфі | (на) печы |

У творным склоне зычны ў пазіцыі паміж галоснымі падаўжаецца: *мышшу, ноччу, меддзю.*

## Назоўнікі множнага ліку

| **Склоны** | **Першае скланенне** | | **Другое скланенне** | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | дарогі | вёсны | дамы | коні |
| Р. | дарог | вёснаў | дамоў | коней |
| Д. | дарогам | вёснам | дамам | коням |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| В. | дарогі | вёсны | дамы | коней |
| Т. | дарогамі | вёснамі | дамамі | коньмі |
| М. | (аб) дарогах | (аб) вёснах | (аб) дамах | (на) конях |

| Склоны | Трэцяе скланенне | | |
|---|---|---|---|
| Н. | радасці | рэчы | верфі |
| Р. | радасцей | рэчаў | верфяў |
| Д. | радасцям | рэчам | верфям |
| В. | радасці | рэчы | верфі |
| Т. | радасцямі | рэчамі | верфямі |
| М. | (аб) радасцях | (аб) рэчах | (на) верфях |

У творным склоне назоўнікі множнага ліку маюць канчатак **-амі(-ямі)**: *шклянкамі, марамі, навінамі*. У родным склоне большасць назоўнікаў першага скланення множнага ліку мае нулявы канчатак: *сякер, хат, папер.* Назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных, маюць канчатак **-аў(-яў)**: *лазняў, рэчаў, пушчаў;* калі ў збегу зычных другі гук **"к"**, то ў гэтым выпадку назоўнік мае нулявы канчатак: *вёска – вёсак, палка – палак.*

Некаторыя назоўнікі першага і другога скланенняў могуць ужывацца з нулявым канчаткам і з канчаткам **-аў(-яў)**: *партызан – партызанаў, вішань – вішняў.*

## Назоўнікі мужчынскага і агульнага роду з канчаткам -а(-я)

| Склоны | Назоўнікі з націскам на аснове | | Назоўнікі з націскам на канчатку | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | плакса | Коля | старшыня | Фама |
| Р. | плаксы | Колі | старшыні | Фамы |
| Д. | плаксу | Колю | старшыню (-і) | Фаму (-е) |
| В. | плаксу | Колю | старшыню | Фаму |
| Т. | плаксам | Колем | старшынёй | Фамой |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | (-ёю) | (-ою) |
| М. | (пра) плаксу | (пра) Колю | (пра) старшыню(-і) | (аб) Фаму(-е) |

Назоўнікі мужчынскага роду, у якіх націск падае на аснову, у давальным і месным склонах маюць канчатак **-у(-ю)**: *пры дзядзьку, у Міцю*; назоўнікі, у якіх націск падае на канчатак, маюць канчатак **-у(-ю)** або **-е, -і**: *аб старшыню (-і).*

Назоўнікі агульнага роду (*плакса, староста* і г.д.), якія абазначаюць асоб жаночага полу, скланяюцца як назоўнікі першага скланення.

**Скланенне прозвішчаў і назваў гарадоў, вёсак на – оў, -ёў, -аў, -еў, -ын, -ін.**

| Склоны | Прозвішчы | | Назвы гарадоў | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | Сідараў | Панін | Крычаў | Валожын |
| Р. | Сідарава | Паніна | Крычава | Валожына |
| Д. | Сідараву | Паніну | Крычаву | Валожыну |
| В. | Сідарава | Паніна | Крычаў | Валожын |
| Т. | Сідаравым | Паніным | Крачавам | Валожынам |
| М. | (аб) Сідараву | Паніну | (у) Крычаве | Валожыне |

Прозвішчы на **-оў, -ёў, -аў, -еў, -ын, -ін** у творным склоне маюць канчаткі **-ым, -ім**: *Дзянісавым, Пеціным*; назвы гарадоў, вёсак – **-ам, -ом**: *за Рагачовам, пад Кобрынам.*

У месным склоне прозвішчы маюць канчатак **-у**: *аб Пятрову, пры Каверыну*; назвы гарадоў і вёсак – **-е**: *у Ржэве, у Таліне.*

**Нескланяльныя назоўнікі.**

Назоўнікі, якія не змяняюцца па склонах, называюцца нескланяльнымі. Да іх адносяцца:

а) прозвішчы на **-о**: *з Сцянько Верай, аб Крамко Івану*;

б) прозвішчы на зычны гук, калі яны абазначаюць асоб жаночага полу: *з Сідарчук Ганнай, у Дарашэвіч Вольгі;*

в) некаторыя запазычаныя назоўнікі, якія заканчваюцца на галосны гук: *метро, радыё;*

г) складанаскарочаныя словы: *ВНУ, БДУ.*

## ПРАВАПІС ПРЫМЕТНІКАЎ.

Правапіс некаторых суфіксаў прыметнікаў.

У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на **т, ч, к, ц** пры дапамозе суфікса **-ск-**, адбываецца зліццё суфіксальнага с з зычным асновы і ўтвараецца спалучэнне **цк**: *брат* + *ск* = *брацкі, Брэст* + *ск* = *брэсцкі.*

У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на **с, ш** пры дапамозе суфікса **-ск-**, застаецца толькі суфіксальны **с**: *беларус* + *ск* = *беларускі, таварыш* + *ск* = *таварыскі.*

У прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, нацыянальнасцей з асновай на **ж, ш, з, г, к, х** пры дапамозе суфікса **-ск-**, усе гэтыя зычныя застаюцца нязменна: *Каўказ* + *ск* = *каўказскі, чуваш* + *ск* = *чувашскі* (але **славацкі, турэцкі, калмыцкі**). Словы **паляшук, казак** не адносяцца да назваў нацыянальнасцей.

Суфікс **-ск-** пішацца нязменна ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на **д**: *горад* + *ск* = *гарадскі, завод* + *ск* = *завадскі.*

Мяккі знак пішацца перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на **-нь**, і ў слове **восеньскі**: *чэрвень – чэрвеньскі, жнівень – жнівеньскі.*

Мяккі знак пішацца ў суфіксах **-аньк-, -эньк-, -еньк-**: *здаровенькі, прыгажэнькі, добранькі.*

Дзве літары **н** пішуцца:

а) у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на **-н, -мя**, пры дапамозе суфікса **-н-**: *вагон – вагонны, імя – іменны ( але полымя – палымяны);*

б) у прыметніках з суфіксам **-енн- (-энн-)**: *абедзенны, страшэнны;*

Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-ан- (-ян-), -ін- (-ын-)**, пішуцца з адным **н**: *пясчаны, драўляны, салаўіны, птушыны.*

Прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай, пішуцца з суфіксам **-еў- (-ев-)**: *Колеў дом, Міцева цукерка.*

## ПРАВАПІС ЛІЧЭБНІКАЎ.

У колькасных лічэбніках ад **адзінаццаці** да **дваццаці** і лічэбніку **трыццаць** пішацца два **ц**.

Лічэбнікі **два (абодва), дзве (абедзве), тры, чатыры** ў творным склоне пішуцца з канчаткам **-ма**: *двума, абодвума, дзвюма, чатырма.*

У лічэбніку **восем** ва ўсіх склонах, акрамя вінавальнага, пасля **с** пішацца **ь**: *васьмі, васьмю.*

У лічбніках **пяць, дзевяць – дваццаць, трыццаць** у творным склоне падаўжаецца **ц**: *пяццю, дванаццаццю, трыццаццю.*

Лічэбнікі **восемсот, стотысячны** маюць **о** у першай аснове.

Парадкавыя лічэбнікі з апошняй часткай **-соты, -тысячны, -мільённы, -мільярдны** пішуцца ў адно слова: *чатырохсоты, трохсотсакарамільённы, шасцісотдваццаціпяцімільярдны.*

У дробавых лічэбніках пры словах **два (дзве), тры, чатыры** парадкавыя лічэбнікі стаяць у назоўным склоне множнага ліку: *дзве пятыя, тры чацвёртыя, чатыры восьмыя*; а пры словах **пяць** і вышэй – у родным склоне множнага ліку: *пяць сёмых, сем дзесятых.*

Пры колькасных лічэбніках **два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры** ўсе словы, што спалучаюцца з імі, маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *два чалавекі, тры новыя кашулі, чатыры спечаныя аладкі.*

Пры зборных лічэбніках назоўнікі маюць форму роднага склону множнага ліку: *двое студэнтаў, чацвёра сяброў, сямёра салдат.*

Пры лічэбніку **паўтара (паўтары)** назоўнікі стаяць у родным склоне адзіночнага ліку: *паўтара цэнтнера, паўтары тоны.*

## ПРАВАПІС ЗАЙМЕННІКАЎ.

Няпэўныя займеннікі з прыстаўкай **абы-** і суфіксам **-небудзь** пішуцца праз дэфіс: *абы-дзе, каму-небудзь, што-небудзь.* Калі прыстаўка абы- аддзелена ад займенніка прыназоўнікам, то яна пішацца асобна: *абы ў каго, абы за што, абы з кім.*

Няпэўныя займеннікі з суфіксам **-сьці (-сь)** пішуцца разам: *хтосьці (хтось), дзесьці (дзесь), камусьці.*

Прыстаўкі **не-, ні-** з займеннікамі пішуцца разам: *нехта, нечага, нішто.*

**Запомніце:**

| | |
|---|---|
| Р. сябе | цябе |
| Д. сабе | табе |
| В. сябе | цябе |
| Т. сабой | табой |
| М. (аб) сабе | (аб) табе |

## ПРАВАПІС ДЗЕЯСЛОВАЎ.

### Правапіс суфіксаў дзеясловаў.

Суфікс **-іва- (-ыва-)** пішацца, калі аснова канчаецца збегам зычных, апошні з якіх **л, н, р**: *абумоўліваць, ачэрніваць, пратрываць.*

Калі дзеясловы першай асобы адзіночнага ліку заканчваюцца на **-ую (-юю)**, то ў неазначальнай форме і

ў прошлым часе пішацца суфікс **-ава- (-ява-)**: *працую – працаваць, малюю – маляваць.*

Калі дзеяслоў у другой асобе адзіночнага ліку загаднага ладу заканчваецца на мяккі знак, то гэты мяккі знак захоўваецца і ў множным ліку: *кінь – кіньце, злазь – злазьце.*

**Спражэнне дзеясловаў**

Спражэнне – гэта змяненне дзеясловаў па асобах і ліках у цяперашнім (будучым простым) часе абвеснага ладу.

**Адзіночны лік**

| Асоба | 1 спражэнне | Канчаткі | 2 спражэнне | Канчаткі |
|---|---|---|---|---|
| 1-я Я | Чытаю, пішу, вязу, бяру | -у (-ю) | Мару, салю, прашу | -у (-ю) |
| 2-я Ты | Чытаеш, пішаш, вязеш, бярэш | -еш (-эш, -аш) | Марыш, соліш, просіш | -іш(-ыш) |
| 3-я Ён (яна, яно) | Чытае, піша, вязе, бярэ | -е (-а, -э) | Марыць, соліць, просіць | -іць(-ыць) |

**Множны лік**

| Асоба | 1 спражэнне | Канчаткі | 2 спражэнне | Канчаткі |
|---|---|---|---|---|
| 1-я Мы | Чытаем, пішам, вязем, бяром | -ем (-ём, ом, -ам) | Марым, солім, просім | -ім(-ым) |
| 2-я Вы | Чытаеце,пішаце,везяце, бераце | -еце (-яце,-аце) | Марыце,соліце, просіце | -іце(-ыце) |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3-я Яны | Чытаюць, пішуць, вязуць, бяруць | -уць(-юць) | Мараць,со ляць, просяць | -аць(-яць) |

Спражэнне дзеясловаў можна вызначаць па неазначальнай форме.

Да 2-га спражэння належаць:

– дзеясловы на **-іць (-ыць)**, акрамя аднаскладовых *(ліць, шыць, жыць)* і ўтвораных ад іх *(паліць, зашыць, нажыць);*
– дзеясловы **гнаць, залежаць, стаць, спаць, гнаць, баяцца.**

Усе астатнія дзеясловы належаць да 1-га спражэння.

Адрозніваць дзеясловы I і II спражэнняў можна і па канчатках 3-й асобы множнага ліку. Дзеясловы I спражэння маюць канчаткі **-уць (-юць)**: *бяруць, мыюць*; а дзеясловы II спражэння **-аць, (-яць)**: *ляцяць, мочаць.*

Адрозненне паміж дзеясловамі I і II спражэння выяўляецца ў 3-й асобе адзіночнага ліку. Дзеясловы II спражэння маюць у канчатку **–ць:** *косіць, поіць;* дзеясловы I спражэння не маюць у канчатку **–ць:** *піша, нясе.*

Дзеясловы **бегчы, есці, даць** – разнаспрагальныя.

У дзеясловах з націскным канчаткам у 2-ой асобе множнага ліку націск падае на апошні склад: *вязеш – везяце, бярэш – бераце, жывеш – жывяце.*

## ПРАВАПІС ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАЎ.

Дзеепрыметнік – форма дзеяслова, якая абазначае прымету прадмета паводле дзеяння і адказвае на пытанні **які? якая? якое?**: *пабеленая сцяна, запрацаваныя грошы, страчаны час.*

У беларускай мове адсутнічаюць зваротныя дзеепрыметнікі. Пры перакладах найбольш

прымальнымі з’яўляюцца дзеепрыметнікі з суфіксамі **–л-, -н-, -ен-, -ан-, -т-**: *абляцелае лісце, сабраны натоўп.*

У дзеепрыметніках нельга выкарыстоўваць суфіксы **–уч-, -юч-, -ач-, -яч-**: *чытаючы, косячы.*

У такіх выпадках лепш выкарыстоўваць дзеясловы, дзеепрыслоўі, прыметнікі, даданыя сказы. *Чалавек, які чытае.*

## ПРАВАПІС ПРЫСЛОЎЯЎ.

Прыслоўі могуць пісацца разам, праз дэфіс і асобна. Разам пішуцца:

а) прыслоўі, утвораныя ад прыметнікаў пры дапамозе прыназоўнікаў: *справа, збольшага, зрэдку;*

б) прыслоўі, утвораныя ад лічэбнікаў пры дапамозе прыназоўнікаў **у, на**: *удвух, удзвюх, натрае;*

в) прыслоўі, утвораныя ад іншых прыслоўяў пры дапамозе прыназоўнікаў: *насупраць, паслязаўтра, замала;*

г) прыслоўі, утвораныя ад займеннікаў: *нізашто, потым, навошта;*

д) прыслоўі, утвораныя ад склонавых форм назоўнікаў пры дапамозе прыназоўнікаў: *уначы, дахаты, наверх;*

е) складаныя прыслоўі, якія маюць у сваім складзе займеннік **што**: *штодзень, штогод, штохвілінна;*

ж) прыслоўі *таксама, гэтаксама.*

**Пішуцца праз дэфіс:**

– прыслоўі з прыстаўкай **па-** і суфіксам **-аму, -яму, -ому, -ему, -цку, -ску, -ы (-і)**: *па-добраму, па-хатняму, па-юнацку, па-дзявочы;*
– прыслоўі з прыстаўкай **па-**, утвораныя ад парадкавых лічэбнікаў: *па-першае, па-другое, па-трэцяе;*
– складаныя прыслоўі: *ледзь-ледзь, дзе-нідзе, раз-пораз;*

– прыслоўі, утвораныя пры дапамозе прыстаўкі **абы-**, суфікса **-небудзь**: *абы-як, абы-дзе, як-небудзь, куды-небудзь.*

**Пішуцца асобна:**

а) спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі **з, без, на, да, за, з-пад, у** і інш.: *на хаду, без канца, да ўпаду;*

б) спалучэнні **не, ні** з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў час, не ў ахвоту, ні за грош.*

## ПРАВАПІС ЧАСЦІЦ НЕ ( НЯ ), НІ.

**Не (ня)** як прыстаўка пішацца разам:

а) калі слова не ўжываецца без **не**: *ненавідзець, недахоп, нядзеля;*

б) калі надае слову супрацьлеглае значэнне, а само слова можна замяніць сінонімам без **не**: *цікавы – нецікавы (сумны), прыяцель – непрыяцель (вораг), дарагі – недарагі (танны);*

в) з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі яны не маюць паясняльных (залежных) слоў: *ненапісаны раман, незапрацаваныя грошы, неадпрасаваная кашуля;*

г) з прыметнікамі, дзеепрыметнікамі, прыслоўямі пры наяўнасці слоў **вельмі, амаль, зусім, выключна, часткова, надзвычай**: *выключна непрыгожы, амаль незламаны, зусім нецікавы;*

д) у дзеяслоўнай прыстаўцы **неда-**, якая мае значэнне непаўнаты дзеяння: *недакасіць, недамаляваць, недавучыць;*

е) з займеннікамі і прыслоўямі: *нехта, нeяк, некуды.*

**Часціца не пішацца асобна:**

а) з дзеясловамі, дзеепрыслоўямі, кароткімі дзеепрыметнікамі: *не напісалі, кветка не сарвана, не адправіўшы ліст;*

б) з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі пры іх ёсць залежнае слова ці супрацьпастаўленне: *не памытая*

*мной падлога, яшчэ не прывезеная шафа; не знойдзеная, а набытая канапа;*

в) з назоўнікамі, прыметнікамі, прыслоўямі, калі ёсць супрацьпастаўленне: *не рана, а позна; не прыяцель, а вораг;*

г) са словамі **не варта, не шкада, не супраць, не трэба.**

Часціца **ні** пішацца заўсёды са словамі асобна. Прыстаўка **ні** пішацца разам у адмоўных займенніках і прыслоўях: *ніякі, нікуды, нішто.*

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

Заданне 4. Перакладзіце словы на беларускую мову.

Бактериолог, биатлон, каприччио, фейерверк, леопард, аккордеон, иена, радиация, видеофильм, конвейер, импрессарио, неофит, ихтиолог, пиала, реостат, ионизация, спелеология, фиалка, фиолетовый, сольфеджио, плэйер, клиентура, тойота, авиация, пантеон, Токио, виолончель, плагиат, коэфициент, ориентация, ажиотаж.

Заданне 5. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

Парлам..нтарый, ч..мярыца, світ..р, мец..нат, пр..снак, зан..пад, каракул..вы, ж..мчужына, агр..сіўны, ч..ргаванне, м..нтол, г..рбарый, яшч..р, ад..кватны, ц..на, гард..роб, р..зюмэ, ш..раговы, дыл..тант, рэш..та, ц..нзура, кр..мень, фельч..р, в..рнісаж, к..раміка, партр..тыст, дроб..зь, ман..кен, карц..р.

Заданне 6. Выпішыце нарматыўны варыянт напісання дадзеных слоў.

Падцвердзіць – пацвердзіць, дзесьці – дзесці, абедзенны – абедзены, замеценны – замецены, палкоўнік – паўкоўнік, каўбаса – калбаса, шарсцяны – шэрсцяны, клас – кляс, дыаграма – дыяграма, песенка – песенька, кінце – кіньце, сцежка – сцешка, разсыпаць – рассыпаць, патпаліць – падпаліць, булён – бульён.

Заданне 7. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

Св..ткаваць, дыл..тант, інв..нтар, ч..мпіён, кілам..тровы, м..нзурка, вас..мнаццаць, др..зіна, с..кунда, к..фір, п..жама, д..густацыя, выц..гнуць, д..кампрэсія, т..рапія, ц..р..монія, інж..нер, кард..олаг, д..спансер, т..лепат, выц..жка, канфід..нцыяльны, д..рэктар, інт..рнатура.

Заданне 8. У сказах выпраўце памылкі пры ўтварэнні і ўжыванні ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

Карацей сталі ночы. Валасы ў Ганны былі яшчэ больш белыя, чым у Міхася. Над вадой грукат колаў здаваўся гучней. Больш усяго браты любілі канікулы. Стаць урачом была мая самая найвялікшая мара. Здароўе даражэй багацця. Самы большы апельсін вырашылі пакінуць бацьку. Найбольш цяжэйшым мне падаўся пад'ём угору.

Заданне 9. Адзначце няправільна ўжытыя дзеепрыметнікі.

Змакрэлая кашуля, замеценная дарога, стаміўшыеся ногі, пажаўцелыя палі, падмецяная падлога, пабялеўшы твар, затрыманны злодзей, намоклая куртка, сплючы дзядзька, апалае лісце.

Заданне 10. Адзначце сказы з памылкамі ва ўжыванні дзеепрыслоўяў і дзеепрыслоўных зваротаў.

Мне стала спакайней, даведаўшыся, што цягнік ужо прыбывае. Аднакласнікі доўга смяяліся, успамінаючы выпускныя экзамены. Уваходзячы ў аўдыторыю, выкладчык пачаў лекцыю. Зразумеўшы, што сябры не прыйдуць, мне стала крыўдна. Ішоўшы з заняткаў, ён разважаў над прачытаным артыкулам. Гуляючы па парку, дзяўчаты збіралі кляновы лісты. Стоячы па калена ў вадзе, холад усё мацней данімаў нас.

Заданне 11. Адзначце сказы з памылкамі пры ўжыванні займеннікаў.

Я нідзе не мог знайсці сябе месца. Мікола не мог не абвінавачваць ва ўсіх бедах сябе самога. Ну і хтосьці з вас адкажа мне на пытанне? Маці папрасіла мяне наліць сабе кавы. Я ўяўляю сябя на міжнароднай выставе. Мы ганарымся табой і тваімі дасягненнямі. Наш калектыў заўсёды будзе памятаць аб цябе. Мы прыйдзем на дапамогу ў кожную гадзіну сутак. Як да табе дазваніцца?

Заданне 12. Утварыце формы 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку абвеснага ладу.

Спаць, несці, выдумляць, кідаць, касіць, піць, таўсцець, пазяхаць, марыць, рубіць, сыпаць, глядзець, рэзаць, жаваць, скардзіцца, класці, адчыняць.

# СТЫЛІ МОВЫ

Стыль – гэта функцыянальная разнавіднасць мовы, якая характарызуецца пэўным наборам моўных сродкаў і выкарыстоўваецца ў палітычнай, навуковай, афіцыйна-справавай і іншых сферах грамадскага жыцця. У залежнасці ад зместу і мэты выказвання, сферы зносін, характару ўжывання моўна-выяўленчых сродкаў вылучаюцца наступныя стылі:

а) афіцыйна-дзелавы;
б) навуковы;
в) публіцыстычны;
г) мастацкі;
д) гутарковы.

Існуючыя межы паміж стылямі з’яўляюцца досыць умоўнымі, паколькі назіраецца ўзаемапранікненне стыляў. Аднак нельга казаць пра нейкі працэс аб’яднання іх у адзін стыль, бо кожнаму з іх уласцівыя

свая лексіка, фразеалогія, пэўныя граматычныя прыметы.

## АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВЫ СТЫЛЬ

Афіцыйна-дзелавы стыль – гэта стыль дзяржаўных дакументаў, законаў, справаздач і г.д. Асаблівасці дадзенага стылю абумоўліваюцца спецыфічнасцю яго ўжывання. Кожны дакумент патрабуе дакладнасці, паслядоўнасці, адназначнасці фармулёвак, лагічнасці.

У афіцыйна-дзелавым стылі адсутнічаюць прастамоўныя, дыялектныя, жаргонныя словы і выразы, мова пазбаўлена эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі.

Афіцыйна-дзелавы стыль характарызуецца:

1. Спецыфічнасцю лексікі: *ніжэйназваны, наяўнасць, выяўлена, адзначыць, запатрабаваць і г.д.;*

2. Тэматычна абумоўленай тэрміналогіяй: *кампенсацыя, персанал, пацыент, койка-месца, стаж і г.д.;*

3. Ужываннем аддзеяслоўных назоўнікаў: *прымяненне, выкарыстанне, знішчэнне, невяртанне і г.д.;*

4. Выкарыстаннем дзеяслоўных словазлучэнняў: *вырашаць – прымаць рашэнне, дазваляць – даваць дазвол, удзельнічаць – прымаць удзел і г.д.;*

5. Складанымі канструкцыямі, дзеепрыметнымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, складанымі злучнікамі: *зыходзячы з таго, што...; улічваючы сказанае...; з прычыны таго, што...;*

Сферы ўжывання: афіцыйныя і службовыя дакументы, законы, статуты, пастановы, указы, дагаворы, загады, рэзалюцыі, пратаколы, аўтабіяграфіі і інш.

**Прыклад:**

Закон Рэспублікі Беларусь

АБ ДЗЯРЖАЎНЫХ САЦЫЯЛЬНЫХ ІЛЬГОТАХ, ПРАВАХ І ГАРАНТЫЯХ ПА АСОБНЫХ КАТЭГОРЫЯХ ГРАМАДЗЯН

ГЛАВА 1
АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. Паняцце дзяржаўных сацыяльных ільгот, правоў і гарантый

Для мэтаў гэтага Закона дзяржаўныя сацыяльныя льготы, правы і гарантыі (далей – сацыяльныя льготы) – гэта прадугледжаныя заканадаўствам перавагі, поўнае або частковае вызваленне ад выканання ўстаноўленых абавязкаў або аблягчэнне ўмоў іх выканання ў сувязі з асаблівым сацыяльна-прававым статусам грамадзяніна або асаблівасцямі яго прафесійнай дзейнасці...

## НАВУКОВЫ СТЫЛЬ

Навуковаму стылю ўласцівы лаканічнасць, інфарматыўная насычанасць, нейтральныя словы з намінатыўным значэннем і спецыяльная тэрміналогія. Большасць тэрміналагічнай лексікі інтэрнацыянальна. Так медыцынская тэрміналогія мае ў асноўным грэчаскае і лацінскае паходжанне, хаця і змяшчае досыць вялікі пласт уласнай лексікі. Часам ў навуковым стылі прысутнічаюць словы з іншамоўнай графікай, схемы, графікі, умоўныя абазначэнні.

Навуковы стыль характарызуецца:

1. Ужываннем формамі множнага ліку рэчыўных назоўнікаў: *солі, вапны, маслы* і інш.;

2. Складаназалежнымі сказамі, дададаная частка якіх нясе асноўную інфармацыю, а галоўная часта пазбаўлена зместу: *Неабходна падкрэсліць, што...; Трэба адзначыць, што...; Можна сказаць, што...* і г.д.

3. Значным пластом прафесійна-тэхнічнай тэрміналогіі.

Як разнавіднасць навуковага стылю можна назваць навукова-папулярны стыль. Ён прызначаны для больш шырокага кола чытачоў, чым непасрэдна навуковы стыль. Навукова-папулярныя выданні не ўжываюць вялікай колькасці вузкапрофільнай тэрміналогіі і часта падаюць тлумачэнне рэдка ўжываемых слоў. Для

навукова-папулярнага стылю ўласцівы вобразнасць, элементы гутарковай лексікі, словы абмежаванага выкарыстання.

Сфера ўжывання: даклады, лекцыі, навуковыя артыкулы, водгукі, анатацыі, рэцэнзіі, манаграфіі, падручнікі і інш.

**Прыклад:**

РЭЗЮМЭ

Плоцкі Андрэй Раманавіч

Дыягнастычнае значэнне вызначэння ўзроўню гомацыстэіну для выяўлення парокаў развіцця плода.

**Ключавыя словы:** гомацыстэін, прыроджаныя парокі развцця плоду, прэнатальная дыягностыка, плазма крыві, адмытыя эрытрацыты, каляплодныя воды.

**Мэта работы:** выявіць дыягнастычную ролю вызначэння ўзроўню гомацыстэіну і яго метабалітаў для выяўлення парокаў развіцця плода.

**Метады даследавання:** клінічны, ультрагукавы, хроматаграфічны.

**Атрыманыя вынікі і іх навізна:** праведзена вывучэнне ўзроўню гомацыстэіну і яго метабалітаў у плазме крыві, адмытых эратрацытах і каляплодных водах цяжарных жанчын пры нармальнай цяжарнасці і пры пароках развіцця плода. Выяўлена, што мае месца сапраўднае павышэнне ўзроўню гомацыстэіну ў плазме крыві пры пароках развіцця цэнтральнай нервовай сістэмы, пароках пярэдняй брухавіннай сценкі, дыяфрагмальных кілах, атрэзіях стрававода, полікістозе нырак, шыйнай гігроме і мностве прыроджаных анамаліях плода. Высокі ўзровень гомацыстэіну ў каляплодных водах асацыіруе з вялікай колькасцю прыроджаных парокаў развіцця плода, а зніжэнне яго – з раскелінамі твара, шыйнай гігромай і парокамі пярэдняй брушной сценкі плода. Адзначана сараўднае зніжэнне ўзроўню глутаціёну і ўзаемаадносін “глутаціён/гомацыстэн” у адмытых эрытрацытах пры

прыроджаных пароках сэрца і мностве прыроджаных пароках развіцця плода. Вызначэнне ўзроўню гомацыстэіну ў плазме крыві жанчын групы “рэзерва родаў” дазваляе ацаніць адэкватнасць праводзімай прэканцэптыўнай падрыхтоўкі. Вызначэнне ўзроўню гомацыстэіну ў плазме крыві дазваляе фарміраваць групы рызыкі сярод цяжарных жанчын і жанчын групы “рэзерву родаў” па ўзнікненні прыроджаных парокаў развіцця плода для правядзення паглыбленай і своечасовай дыягностыкі.

**Рэкамендацыі па прымяненні:** паказальнікі ўзроўню гомацыстэіну могуць быць выкарыстаны ў якасці дыягнастычнага маркера прыроджаных парокаў развіцця плода ў медыцынскіх установах, якія займаюцца прэнатальнай дыягностыкай. Узровень гомацыстэіну ў плазме крыві можа быць крытэрыем адэкватнасці праводзімай прэканцэптыўнай падрыхтоўкі сярод жанчын групы “рэзерву родаў”.

**Галіна прамянення:** акушэрства, прэнатальная дыягностыка.

## ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ

Публіцыстычнаму стылю ўласцівы экспрэсіўнасць, эмацыянальнасць, ацэначнасць. У мове часта ўжываюцца рытарычныя пытанні, сказы-звароты, паўторы, сказы з інверсійным парадкам слоў і г.д. Мова публіцыстыкі мае шмат агульнага з мовай мастацкай літаратуры. Тут ужываюцца дыялектызмы, жарганізмы, словы і выразы са зніжанай стылістычнай афарбоўкай.

Сфера ўжывання: газеты, часопісы, даклады, выступленні, рэцэнзіі, арыткулы, рэпартажы і г.д.

**Прыклад:**

Паліноз – хвароба, якую выклікае пыленне раслін, прыносіць алергікам нямала пакутаў. Аднак звычайны бытавы пыл, які заўсёды разам з намі, бадай, яшчэ больш небяспечны алерген, чым пылок раслін. Калі ў вас

раптоўна з’яўляюцца кашаль, хрыпы, прыступы ўдушша, ноччу дрэнна дыхаецца, то зусім верагодна, што так сябе праяўляе бытавая алергія.

Пакаёвы пыл, у якім жывуць кляшчы-сапрафіты, выклікае самую цяжкую дыхальную алергію і можа спраракаваць захворванне на бранхіяльную астму. 1 грам пылу з падушкі ці коўдры можа ўтрымліваць 200 – 15000 кляшчоў-сапрафітаў.

Кніжны і газетны пыл выклікае так званую “бібліятэчную” алергію з рознымі праявамі – ад чхання да прыступаў удушша.

(Вольга Шаўко)

## ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ

Гутарковы стыль характарызуецца прастамоўнай лексікай, дыялектызмамі, прафесіяналізмамі, жарганізмамі. Ён вельмі індывідуалізаваны, што робіць дадзены стыль блізкім да публіцыстычнага і мастацкага. Адметнымі асаблівасцямі гутарковага стылю з’яўляецца дыялагічная мова, спрошчанасць, перарывістасць і экспрэсіўнасць. Значную ролю тут адыгрываюць няпоўныя сказы, устаўныя канструкцыі, пабочныя словы. Яшчэ адной прыкметай гутарковага стылю можна назваць наяўнасць выклічнікаў, часціц, дзеяслоўных форм, інфінітыва, форм цяперашняга часу дзеяслова ў значэнні прошлага часу: “Пагаварыў бы са мной трошкі!”

Сферы ўжывання: дыялог, маналог, вітанне, запіска, ліст.

**Прыклад:**

Харунжы ўспыліў:

- Сам супярэчыш сабе. Пры патуранні тваіх маленькіх вырастаюць гітлеры!

- Яны вырастаюць патураннем дужа сквапных і багатых. І ўціскаюць малых, Толя.

- Ну, а каб ты пры Гітлеру жыў? Галовы сякуць вакол, а ты стогнеш аб адзінках, што не атрымліваюць лістоў. Так?

- Не трэба, Толя, - усё яшчэ спакойна сказаў Андрэй. – Я б не стагнаў, я б сам, першы, страціў галаву. Я таксама не з дробных і ведаю, што права здзекавацца з гонару і сумлення чалавека ні ў каго няма. І калі пачынаюць рабіць такое – чалавек, грамадства мае права ўзяцца за зброю і паўстаць супраць гэтага...

(У. Караткевіч)

# МАСТАЦКІ СТЫЛЬ

Мастацкі стыль вылучаецца адзінствам камунікатыўнай і эстэтычнай функцый. Наглядаецца вялікая разнастайнасць вобразна-выяўленчых адзінак, якія павышаюць дзейснасць мовы. Сюды адносяцца эпітэты, параўнанні, метафары, гіпербалы і г.д. Да вобразна-выяўленчых сродкаў належаць рытарычныя фігуры (рытарычныя пытанні, звароты, выклічнік) і стылістычныя – сінтаксічныя фігуры, уласцівыя перш за ўсё паэзіі (інверсія, падваенне, анафара і г.д.).

Мове мастацкай літаратуры ўласціва стылістычная незамкнёнасць, тут прысутнічаюць дыялектныя словы, тэрміналагічная лексіка, неалагізмы і архаізмы, часам нават вульгарызмы.

Сфера ўжывання: апавяданні, аповесці, раманы, казкі, вершы, быліны і г.д.

**Прыклад:**

Сэрца на далоні

Яраш, усё такі ж спакойны і велічны, прыветліва ківае ёй галавой. У адказ яна заплюшчвае вочы: маўляў, я ўсё разумею, не турбуйцеся, я на ўсё гатова. Нічога не сказаўшы, ён адыходзіць. Працягвае рукі Машы. Яна спрытна сцягвае пальчаткі і накрывае яго вялікія рукі сурвэткай. Ён садзіцца. Ён адпачывае. Можа, апошні

раз прадумвае план аперацыі. А яго памочнікі – урачы і сёстры – не вельмі каб спешліва падключаюць да хворай датчыкі апаратаў: пад спіну, да галавы, да рукі, да нагі... Правады, шлангі звісаюць пад сталом. Шыковічу чамусьці больш за ўсё кінуўся ў вочы і запомніўся маленькі апарацік, які надзелі Зосі на левае вуха. ( Пасля ён даведаўся, што гэта аксігемометр – прыбор, які вызначае насычанасць крыві кіслародам.)

Яраш расказваў яму пра назначэнне многіх апаратаў. Але цяпер у галаве ў Шыковіча ўсё пераблыталася. Ды прыборы і машыны яго ніколі не цікавілі. Цікавяць людзі. Цяпер больш за ўсіх яна, Зося. І ўрачы. Здавалася, злачынна павольна ўсё яны робяць. Хіба можна ў такі момант быць такімі марудамі? Хацелася крыкнуць Антону: " Чаму ты ўсеўся, як Буда? Падгані іх!"

У самога яго ўсё часцей і мацней б'ецца сэрца. Ён амаль пачынае дрыжаць ад хвалявання і нецярплівасці: хутчэй, хутчэй! Нарэшце Майзіс, першы асістэнт, кідае:

- Гатова, Антон Кузьміч.

(І. Шамякін)

Заданне 13. Прачытаць тэксты. Вызначыць стыль.

**Тэкст 1**. У Мінску закуплены унікальны апарат для дыягностыкі астэапарозу. Ён устаноўлены ў 1-ай гарадской клінічнай бальніцы, у якой дзейнічае гарадскі цэнтр прафілактыкі астэапарозу. Урачы змогуць праводзіць хуткую, амаль імгненную дыягностыку захворвання і ацэньваць рызыку пераломаў. Цяпер такі апарат ёсць у Рэспубліканскім цэнтры медыцынскай рэабілітацыі і бальнеалячэння. Яшчэ адзін апарат ёсць у Гомелі.

("Звязда")

**Тэкст 2.** Пячоначная недастатковасць з'яўляецца цяжкім ускладненнем як да-, так і пасляаперацыйнага

перыяду ў хворых на востры халангіт на фоне механічнай жаўтачкі.

Прычынай механічнай жаўтачкі і вострага халангіту вы ўсіх выпадках быў халедахалітыяз, а ў 12 хворых – у спалучэнні са стэнозам Фатэрава сасочка. Пасля правядзення комплекснага абследавання ўсе хворыя аперыраваны. Дыягназ вострага халангіту ў час аперацыі пацвярджаўся наяўнасцю гною, хлоп'яў фібрыну ў прасвеце гепатыка халедоху. У пасляаперацыйны перыяд праводзілі інфузійна-дэтаксікацыйную і антыбактэрыяльную тэрапію, санацыю жоўцевыводзячых шляхоў, прымянялі гепатапратэктары і антыаксіданты...

(М. Бала, Н. Бацвінкоў і інш.)

**Тэкст 3**. Вера Іосіфаўна ўжо даўно хварэла на мігрэнь, але ў апошні час, калі Коцік кожны дзень палохала, што паедзе ў кансерваторыю, прыпадкі пачалі паўтарацца ўсё часцей. У Туркіных перабывалі ўсе гарадскія ўрачы; дайшла нарэшце чарга і да земскага. Вера Іосіфаўна напісала яму чуллівае пісьмо, у якім прасіла яго прыехаць і аблягчыць яе пакуты. Старцаў прыехаў і пасля гэтага стаў часта бываць у Туркіных, вельмі часта... Ён сапраўды крыху дапамог Веры Іосіфаўне, і яна ўсім гасцям ужо гаварыла, што гэта незвычайны, цудоўны доктар.

(А. Чэхаў "Іоныч")

**Тэкст 4**. І толькі тады Выліваха зразумеў, што перад ім таксама жанчына, з нянавісцю да шчаслівейшых і зайздрасцю да іх.

- Што, Выліваха, можа, згуляем на кветку? – спытала яна.

- Я магу гуляць сабою. Але я не гуляю роднай зямлёй.

- Што ж, - ужо абыякава сказала Смерць,- тады ідзі да Арахны, дзяўчо.

- Але я не хачу туды, - непаразумела сказала Бярозка.

- Як я цябе ненавіджу, - сказаў Выліваха бязносай. – Зусім як нашых радцаў і князей.

- А між ты я добрая, - сказала Смерць. – Хочаце, ідзіце ўдвох.

(У. Караткевіч “Ладдзя роспачы”)

# БЕЛАРУСКАЯ МЕДЫЦЫНСКАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Тэрміны – словы і спалучэнні слоў, якія з’яўляюцца афіцыйнымі назвамі паняццяў навукі, мастацтва, тэхнікі. Сукупнасць тэрмінаў пэўнай навукі, прафесіі называецца тэрміналогіяй. Так, тэрміны, што адносяцца да медыцыны, і называюцца медыцынскай тэрміналогіяй.

## ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ МЕДЫЦЫНСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Гісторыя фарміравання і далейнага папаўнення беларускай медыцынскай тэрміналогіі непарыўна звязана з развіццём усёй беларускай літаратурнай мовы. Вызначым асноўныя крыніцы гэтага працэсу.

1. Запазычанні. Як правіла, запазычваюцца інтэрнацыянальныя тэрміны, якімі карыстаюцца многія мовы. Але дапускаецца выкарыстанне і нацыянальных тэрмінаў, калі падобны не задавальняе як інтэрнацыянальны або немагчыма зрабіць якасны яго пераклад. Часцей за ўсё пры запазычаннях выкарыстоўваецца калькаванне (звычайна з рускай мовы): тазобедренный – тазасцегнавы, большеберцовый – вялікагалёнкавы. У складаных тэрмінах першай часткай звычайна з’яўляюцца ўсечаныя часткі грэчаскіх і лацінскіх назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавы кампанент грэчаскага паходжання:

Ларынга- (ад larynks, -ngos – гартань), выражае паняцце “які адносіцца да гартані: *ларынгаспазма, ларынгастэноз*; мія- (ад mys, myos – мышца), выражае паняцце “мышачны”: *міяфібрылы, міярэлексанты*; неўра- (ад neuron – нерв), указвае на сувязь з нервовай сістэмай. Таксама да грэчаскага кампанента можна аднесці: нефра-(ад nephros – нырка), пнеўма-(ад pneuma – дыханне), самата-(ад soma,-atos – цела), спондыла-( ад spondylos – пазванок), фармака-( ад pharmakon –

лякарства), хламіда-( ад chlamys – плашч), энтэра-(ад enteron – кішка), адэна-(ад aden – залоза), анка-( ад onkos – уздутасць), ата-( ад us, otos – вуха), афтальма-( ад ophtalmos – вока), гемата-( ад haima, -atos- кроў), дэрмата-(ад derma-, -atos – скура), кранія-( ад kranion – чэрап), наза-(ад nosos – хвароба), рына-( ад rhis, -inos – нос), сарка-( ад sarks, sarkos – мяса), сплахна-(ад splachnon – вантробы), такса-( ад toksikon – яд), тарака-( ад thoraks – грудзі), ура-(ад uron – мача), фізія-(ад phisis – прырода), хале-(ад chole – жоўць), хондра-(ад chondros – храсток), эмбрыя-(ад embryon – зародак), энцэфала-(ад enkephalos – мозг).

Колькасць лацінскіх тэрмінаў значна меншая ў параўнанні з грэчаскай мовай. Гэта, як правіла, тэрміны, першай часткай якіх з'яўляюцца лацінскія элементы вібра- (ад vibro дрыжу, вагаюся; выражае паняцце "вібрацыйны"), імуна- (ад immunis свабодны ад чаго-небудзь, некрануты; указвае на адносіны да імунітэту), каранара- ( ад coronarius вянечны; выражае паняцці "які мае адносіны да вянечных артэрый сэрца"), лакта- (ад lac, -ctis малако; выражае паняцце "які адносіцца да малака"), мульты- (ад multium многа; указвае на шматлікасць прадметаў або на шматразовасць дзеянняў, функцый), радые- (ад radius прамень; указвае на адносіны да радыеактыўнасці, радыяцыі).

Наступнай часткай складаных тэрмінаў часта з'яўляюцца элементы –фікацыя (ад facere рабіць; абазначае ўкараненне, распаўсюджанне), -цыд (ад caedo забіваю; адпавядае паняццю знішчэнне), -ол (ад oleum алей; адпавядае паняццю алей).

Многа тэрмінаў запазычана з іншых моў ужо ў гатовым выглядзе: *білірубін* (bilirubinum, ад bilis "жоўць" + rubber "чырвоны" – лацінізм), *самнамбулізм* (somnambulisme, ад лацінскага somnus "сон" + ambulare "хадзіць" – з французскай мовы), *мальсека* (malsecco, ад male "хвароба" + secco "сухасць" – з італьянскай).

2. Уласнабеларуская лексіка. Сюды мы адносім тэрміны, што ўзніклі ў беларускай мове з XIV стагоддзя і да нашых дзён: *нырка, лытка, галёнка.*

3. Неалагізмы. Па меры з'яўлення новых прадметаў і паняццяў узнікае неабходнасць у іх моўным абазначэнні. Так і з'яўляюцца неалагізмы: *эмбрыёлаг, аксід, тамограф.*

У беларускай мове ёсць яшчэ вялікі незапатрабаваны пласт медыцынскай тэрміналогіі. Гэта дыялектныя словы. Многія з іх і сёння ў карыстанні значнай часткі беларусаў і існуюць паралельна з запазычанымі або калькаванымі тэрмінамі: *аорта – тутніца, ключыца – раменніца, прамая кішка – кутніца.*

Заданне 14.

1. Што такое тэрміналогія?
2. Якія вы ведаеце шляхі папаўнення беларускай тэрміналогіі?

## АСАБЛІВАСЦІ ПЕРАКЛАДУ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Пры перакладанні тэкстаў на беларускую мову трэба звяртаць увагу на наступныя асаблівасці:

1. Канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне *(пацыента, доктара, але шалу, поту).*

2. Адрозненне родавай прыналежнасці некаторых назоўнікаў у параўнанні з рускай мовай: *боль (м.р.) – боль (ж.р.), пачак (м.р.) – пачка (ж.р.), подпіс (м.р.) – подпись (ж.р.).*

3. Пры лічэбніках два, тры, чатыры ўжываецца форма назоўнага склону множнага ліку: *два контрольных анализа – два кантрольныя аналізы, четыре лечебных массажа – чатыры лячэбныя масажы.*

4. Недапушчальнасць ужывання ў беларускай мове дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі **–уч(-юч), -ач (-яч),** паколькі гэта суфіксы дзеепрыслоўяў. У такіх выпадках дзеепрыметнік неабходна замяняць дзеясловам: *практыкуючы ўрач – урач, які практыкуе; ачуньваючы хворы – хворы, які ачуньвае.*

5. Дзеясловы ветлівасці дзякаваць, прабачыць, даравацъ кіруюць займеннікам ці назоўнікам у форме давальнага склону: *дзякаваць брату, прабачыць суседцы, даравацъ вучню.*

6. Дзеясловы **смяяцца, жартаваць, кпіць, дзівіцца, здзекавацца** кіруюць назоўнікам ці займенніка у форме роднага склону з прыназоўнікам **з**: *смяяцца з яго, жартавацъ з сябра, дзівіцца з надвор'я.*

7. Дзеяслоў **хварэць** і прыметнік **хворы** кіруюць вінавальным склонам з прыназоўнікам **на**: *хварэць на грып, хворы на сухоты.*

8. Дзеясловы маўлення, мыслення, пачуцця: **гаварыць, шаптаць, думаць, марыць, клапаціцца** і інш. – і ўтвораныя ад іх назоўнікі кіруюць назоўнікамі і займеннікамі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам пра: *думаць пра работу, непакоіцца пра дзяўчыну, марыць пра адпачынак.*

9. Прыметнікі і прыслоўі ў форме вышэйшай ступені параўнання патрабуюць залежнага слова ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам **за**: *дужэйшы за суседа, бліжэй за ўсіх, прыгажэй за яе.*

Заданне 15. Спішыце словазлучэнні, завучыце род назоўнікаў.

Моцны боль (м.р.), густы накіп (м.р.), цяжкі пачак (м.р.), едкі гар (м.р.), бабульчына камода (ж.р.), чыгуначны насып (м.р.), старажытны летапіс (м.р.), неразборлівы подпіс (м.р.), горкі палын (м.р.), вялікі цень (м.р.), правы туфель (м.р.), складаны дроб (м.р.), насценны жывапіс (м.р.), салодкая какава (ж.р.), старая гусь (ж.р.), смачны яблык (м.р.), шэры пыл (м.р.), злы

сабака (м.р.), стракаты шаль (м.р.) бязмежны стэп (м.р.), чарговы перапіс (м.р.), салдацкі шынель (м.р.), залаты медаль (м.р.).

## СЛОВЫ З КАЛЬКАВАНЫМ ПЕРАКЛАДАМ І ЎЛАСНАБЕЛАРУСКІЯ

Вялікая колькасць слоў на рускай мове ў «Русско-белорусском словаре»[1] мае два перакладныя варыянты: адзін з'яўляецца калькай з рускай мовы, а другі – уласнабеларускі. Прычым, часта калькаваны варыянт падаецца ў слоўніку першым, г.з. асноўным перакладам. І тым не менш, здаецца мэтазгодным выкарыстоўваць менавіта беларускамоўны варыянт пры перакладзе (ён выдзелены чорным шрыфтам), што з'яўляецца лагічным для мовы тытульнай нацыі.

акт – акт, **дзея**
алмаз – алмаз, **дыямент**
алоэ – алоэ, альяс
алоэвидный – алоэпадобны, **альясападобны**
багор – багор, **бусак**
башмак – башмак, **чаравік**
бедлам – бедлам, **вэрхал**
бедро – бядро, **сцягно**
безвыездно – бязвыезна, **неадлучна**
бездольный – бяздольны, **гаротны**
безрезультатно – безрэзультатна, **безвынікова**
белизна – белізна, **бель**
богослужебный – богаслужэбны, **набажэнскі**
бойня – бойня, **разніца**
болячка – **болька**, балячка
благословенный – благаславенны, **благаславёны**
бурение – бурэнне, **свідраванне**

[1] Русско-белорусский словарь под ред. Я. Коласа, К. Крапивы, П. Глебки.- Мн., 1994.

буря – бура, **навальніца**
быстрее – быстрэй, **хутчэй**
быстро – быстра, **хутка**
величание – **праслаўленне**, велічанне
воронка – **лейка**, варонка
всезнайка – усёзнайка, **усёвед**
вырисовать – вырасаваць, **вымаляваць**
выборка – **выбіранне**, выбарка
выбривать – **выгольваць**, выбрываць
выверт – **выкрутас**, выверт
выводок – вывадак, **кодла**
выжатый – **выціснуты**, выжаты
вымолить – вымаліць, **выкленчыць**
вымостить – вымасціць, **выбрукаваць**
выпукло – выпукла, **пуката**
выродиться – вырадзіцца, **звесціся**
вырубить – вырубіць, **высечы**
выситься – высіцца, **узвышацца**
высосанный – высасаны, **высмактаны**
выстрел – выстрал, **стрэл**
высь – **вышыня**, высь
выхватить – выхваціць, **выхапіць**
глянуть – глянуць, **зірнуць**
гнусно – гнюсна, **паскудна**
гогот – гогат, **рогат**
голубить – галубіць, **песціць, мілаваць**
грабить – грабіць, **рабаваць**
грузоподъёмник – грузапад'ёмнік, **грузападымальнік**
губить – губіць, **нішчыць**
гузка – гузка, **задок**
гульба – гульба, **ігрышчы**
гулящая – гуляшчая, **блудніца**
гумус – гумус, **перагной**
гусеница – гусеніца, **вусень**
дарование – дараванне, **здольнасць**
дача – **даванне**, дача
дача – дача, **летнік**
дворец – дварэц, **палац**

дворцовый – **палацавы**, дварцовы
двоюродный – **стрыечны**, дваюрадны
двухслойный – двухслаёвы, **двухпластовы**
дебош – дэбош, **буянства**
десятикратный – **дзесяціразовы**, дзесяцікратны
детвора – дзетвара, **дзятва**
детище – дзецішча, **тварэнне**
доплата – **даплачванне**, даплата
дорисованный – дарысаваны, **дамаляваны**
дорубать – **дасякаць**, дарубліваць
дословно – даслоўна, **літаральна**
добавочный – дабавачны, **дадатковы**
добаловаться – дабалавацца, **дадурэцца, дасваволіцца**
доброволец – дабраволец, **добраахвотнік**
доволакивать – давалакваць, **дацягваць**
догладить – **дапрасаваць**, дагладзіць
докучать – дакучаць, **назаляць**
домащивать – дамошчваць, **дабрукоўваць**
допаянный – дапаяны, **далітаваны**
жухлый – жухлы, **бляклы**
заживление – **загойванне**, зажыўленне
зазывание – зазыванне, **заклікание**
зазываться – зазывацца, **заклікацца**
залог – залог, **заклад**
зарисованный – зарысаваны, **замаляваны**
зарубежный – зарубежны, **замежны**
зарубина – зарубіна, **засечка**
заря – зара, **досвітак**
заусенец – завусеніца, **задзірына**
заушница – заўшніца, **свінка**
захват – **захоп**, захват
загривок – загрывак, **гагавіца**
зачин – зачын, **пачатак**
зачинщик – зачыншчык, **завадатар**
зашелестеть – зашалястаць, **зашамацець**
зашторенный – заштораны, **завешаны**
звать – зваць, **клікаць, гукаць**
зелень – зелень, **зяляніна**

злословие – зласлоўе, **абгавор**
злоязычие – злоязычнасць, **пляткарства**
знать – **ведаць,** знаць
измазаться – змазацца, **пэцкацца**
коневод – **конегадовец**, канявод
конфорочный – **фаерачны**, канфарачны
крен – крэн, **нахіл**
кривотолки – **плёткі**, крыватолкі
кромсание – **крэмзанне,** крамсанне
крутой – круты, **стромкі**
каракули – **крамзалі**, каракулі
капелька – капелька, **кропелька**
кинолюбитель – **кінааматар**, кіналюбіцель
кукиш – кукіш, **дуля**
кусок – кусок, **кавалак**
коряво – карава, **шурпата**
костёр – касцёр, **вогнішча**
лесовик – лесавік, **лясун**
лесосека – **дзялянка**, лесасека
летучая мышь – лятучая мыш, **кажан**
любительский – **аматарскі**, любіцельскі
малопригодный – **малапрыдатны**, малапрыгодны
малорослый – малару́слы, **нізкарослы**
малюсенький – малюсенькі, малюпасенькі
мельник – мельнік, **млынар**
местопребывание – **месцазнаходжанне**, месцапрабыванне
метелица – мяцеліца, **завіруха**
метелистый – мяцелісты, **завірушны**
мешать – мяшаць, **перашкаджаць**
молокосос – малакасос, **блазнюк**
мостильщик – масцільшчык, **брукоўшчык**
мостить – масціць, **брукаваць**
мохнатить – махнаціць, **калмаціць**
мохнатосць – махнатасць, **калматасць**
мохнач – махнач, **кудлач**
мохноногий – махнаногі, **касманогі**
мука – мука, **пакута**

мутить – **каламуціць**, муціць
мутнеть – **каламуціцца**, мутнець
мутность – мутнасць, **каламутнасць**
мысль – **думка**, мысль
мятый – мяты, **камечаны**
наволакивать – навалакаць, **нацягваць**
навязаться – **прычапіцца**, навязацца
нагаечный – нагаечны, **бізуновы**
нагладить – нагладзіць, **напрасаваць**
нагнутый – нагнуты, **нахілены**
награбить – награбіць, **нарабаваць**
надебоширить – надэбашырыць, **набуяніць**
надрать – надраць, **надзерці**
недорисованный – недарысаваны, **недамаляваны**
небритый – **няголены**, нябрыты
неверно – **памылкова**, няверна
намутить – намуціць, **набаламуціць**
напечатание – **надрукаванне**, напячатанне
неувядающий – **нявянучы**, неўвядаемы
неурожай – неўраджай, **няўрод**
неядовитый – неядавіты, **неатрутны**
неясно – няясна, **невыразна**
новоселье – наваселле, **уходзіны**
наследник – наследнік, **спадчыннік**
неполноценность – непаўнацэннасць, **непаўнавартас-насць**
нескромно – няскромна, **нясціпла**
незваный – няваны, **няпрошаны**
нездоровится – нездаровіцца, **нядужыцца**
нездоровье – нездароўе, **хворасць**
неизрасходованный – незрасходаваны, **невыдаткаваны**
некрутой – некруты, **нястромкі**
нестройно – нястройна, **нязграбна**
обаяние – абаянне, **прывабнасць**
облаять – **набрахаць**, аблаяць
обложение – **абкладанне**, аблажэнне
облокотиться – **абаперціся**, аблакаціцца
обривать – **агольваць**, абрываць

обрисовка – абрысоўка, **абмалёўка**
обритый – **аголены**, абрыты
обручаться – абручацца, **заручацца**
обшарпанный – абшарпаны, **абдрапаны**
община – абшчына, **суполка**
оленевод – аленевод, **аленегадовец**
опасаться – апасацца, **асцерагацца**
опасно – **небяспечна**, апасна
опилки – **пілаванне**, апілкі
осада – асада, **аблога**
осадный – асадны, **аблогавы**
осаживание – **спыненне**, асаджванне
осиленный – асілены, **адолены**
осиплость – асіпласць, **сіпатасць**
остатки – астаткі, **рэшткі**
остолоп – асталоп, **ёлупень**
отваживаться – адважвацца, **асмельвацца**
отзывать – **адклікаць**, адзываць
отзываться – **адклікацца**, адзывацца
отпуск – водпуск, **адпачынак**
отстраивание – адстройванне, **адбудоўванне**
ошеек – ашыек, **каркавіна**
парус – парус, **ветразь**
пережатый – **пераціснуты**, пераржаты
перезалог – пераразалог, **перазаклад**
пепелище – **пажарышча**, папялішча
перебивание – **перапыненне**, перабіванне
переборка – **перабіранне**, пераборка
перебрить – перабрыць, **перагаліць**
перевешанный – перавешаны, **переважаны**
перевешивать – перавешваць, **пераважваць**
пережатый – пераржаты, **пераціснуты**
перероструганный – перараструганы, **перагабляваны**
перестроенный – **перабудаваны**, перастроены
переложенный – пераложаны, **перакладзены**
перелущенный – пералушчаны, **пералузганы**
перемазанный – перамазаны, **перапэцканы**
перемасленный – перамаслены, **перашмальцаваны**

перемащивание – перамошчванне, **перабрукоўванне**
переметить – перамеціць, **пазначыць**
перемостить – перамасціць, **перабрукаваць**
перемутить – перамуціць, **перакаламуціць**
перемятый – перамяты, **перакамечаны**
переодевание – пераадзяванне, **пераапрананне**
перепайка – перапайванне, **пералітоўванне**
перепалка – перапалка, **лаянка**
переправа – пераправа, **перавод**
перепробованный – перапрабаваны, **перакаштаваны**
перерасход – перарасход, **перавыдатак**
перетопить – **перапаліць**,ператапіць
печатание – пячатанне, **друкаванне**
письмо – пісьмо, **ліст**
погода – пагода, **надвор'е**
подживить – паджывіць, **падгаіць**
подживленный – паджыўлены, **падгоены**
подкалывание – падколванне, **падшпільванне**
подмащивание – падмошчванне, **падбрукоўванне**
подмечать – падмячаць, **заўважаць**
подрисованный – падрысаваны, **падмаляваны**
по-другому – па-другому, **па-іншаму, інакш**
подструганный – падструганы, **падгабляваны**
подточенный – падточаны, **падвостраны**
подтравленный – падтраўлены, **падатручаны**
поезд – **цягнік**, поезд
полноценность – паўнацэннасць, **паўнавартасць**
положенный – паложаны, **пакладзены**
полуразваленный – паўразвалены, **паўразбураны**
поминутно – памінутна, **штохвілінна**
помнить – помніць, **памятаць**
помутить – памуціць, **пакаламуціць**
помятый – памяты, **пакамечаны**
попадать – **трапляць**, пападаць
попусту – попусту, **дарма**
пора – пара, **час**
поры – поры, **сітавіны**
порыв – парыў, **павеў**

порытый – **пакапаны**, парыты
поскрипеть – паскрыпець, **парыпець**
постой – пастой, **пачакай**
предпосылка – прадпасылка, **передумова**
приближенный – прыбліжаны, **набліжаны**
привёрнутый – **прыкручаны**, прывёрнуты
приданое – **пасаг**, прыданае
придаточный – прыдатачны, **даданы**
придраться – прыдрацца, **прычапіцца**
прилегать – прылягаць, **прымыкаць**
припаивание – прыпайванне, **прылітоўванне**
приподнимать – прыпадымаць, **прыўздымаць**
припоминание – прыпамінанне, **нагадванне**
приработок – прырабатак, **прыробак**
пририсованный – прырысаваны, **прымаляваны**
прорубка – прарубка, **прасячэнне**
проскрипеть – праскрыпець, **прарыпець**
прослоенный – праслоены, **прапластаваны**
проткнутый – праткнуты, **праколаты, працяты**
протыкание – пратыканне, **праколванне**
протяжно – працяжна, **працягла**
профессионально – прафесіянальна, **прафесійна**
профукать – прафукаць, **праматаць**
проходом – праходам, **мімаходам**
пройдоха – **прайдзісвет**, прайдоха
прокараулить– **правартаваць**, пракаравуліць, **прапільнаваць**
промашка – **промах**, прамашка, **памылка**
пробривать – прабрываць, **прагольваць**
пробрить – прабрыць, **прагаліць**
прогадать – прагадаць, **пралічыцца**
пурга – пурга, **завея, завіруха**
пустяк – пусцяк, **дробязь, глупства**
путаться – путацца, **блытацца**
радиолюбитель – **радыёаматар**, радыёлюбіцель
разбалованный – **распешчаны**, разбалаваны
разбор – разбор, **разбіранне**
разборка – разборка, **разбіранне**

разбредаться – разбрыдацца, **разыходзіцца**
разбухание – разбуханне, **набраканне**
разбухнуть – разбухнуць, **набракнуць**
развинтить – развінціць, **расшрубаваць**
разгневанный – разгневаны, **раззлаваны**
разграбить – разграбіць, **разрабаваць**
раздетый – раздзеты, **распрануты**
раздружить – раздружыць, **пасварыць**
раздумывание – раздумванне, **разважанне**
разжаливать – разжальваць, **расчульваць**
разлаяться – **разбрахацца**, разлаяцца
разложение – **раскладанне**, разлажэнне
разложенный – **раскладзены**, разложаны
разложить – **раскласці**, разлажыць
разлютоваться – **раз'юшыцца**, разлютавацца
разматывание – **раскручванне**, размотванне
размотаться – **раскруціцца**, разматацца
разнородность – **разнастайнасць**, разнароднасць
разносортный – **рознагатунковы**, разнасортны
разносторонний – **рознабаковы**, рознастаронні
разодевать – **прыбіраць**, разадзяваць
разрисованный – **размаляваны**, разрысаваны
раскабалённый – раскабалены, **разняволены**
раскидистый – раскідзісты, **разгалісты, разгаты**
расколыхаць – раскалыхаць, **разгойдаць**
расстроивание – расстройванне, **разладжванне**
растить – расціць, **гадаваць**
растранжиренный – растранжыраны, **змарнатраўлены**
рвота – ірвота, **ваніты**
ребята – **дзеці**, рабяты
резво – рэзва, **жвава**
резвость – рэзвасць, **жвавасць**
резина – рызіна, **гума**
резиновый – рызінавы, **гумавы**
ровесник – равеснік, **аднагодак**
родословие – радаслоўе, **радавод**
рубеж – рубеж, **мяжа**
рыло – **лыч**, рыла

рыльце – **лычык**, рыльца
сбритый – збрыты, **зголены**
сбываться – збывацца, **праўджвацца, здзяйсняцца**
свергать – звяргаць, **зрынаць**
свёрнутый – **згорнуты**, звёрнуты
свернуть – **згарнуць**, звярнуць
сверхскорость – звышскорасць, **звышхуткасць**
свинка – свінка, **заўшніца**
свободно – свабодна, **вольна**
свободомыслие – свабодамысласць, **вольнадумства**
связно – **складна**, звязна
сгодится – згадзіцца, **спатрэбіцца**
сдача (деньги) – здача, **рэшта**
сдрейфить – здрэйфіць, **збаяцца**
сдружиться – здружыцца, **пасябраваць**
сегодня – сягоння, **сёння**
сельский – сельскі, **вясковы**
семикратный – **сяміразовы**, сямікратны
семислойный – **сяміпластовы**, сяміслойны
сеноподборщик – **сенападбіральнік**, сенападбіральшчык
сердцевед – серцавед, **сэрцазнавец**
сермяга – сярмяга, **світка**
сзывать – **склікаць**, ззываць
сигануть – сігануць, **скочыць**
силком – сілком, **гвалтам**
скрип – скрып, **рып**
скрипучий – скрыпучы, **рыпучы**
скромный – скромны, **сціплы**
слобосилие – слабасілле, **нядужасць**
слой – слой, **пласт**
случать – злучаць, **спароўваць**
слученный – злучаны, **спараваны**
случка – злучка, **спароўванне**
слюнтяй – слюнцяй, **слімак, размазня**
смиловаться – змілавацца, **злітавацца**
собеседник – субяседнік, **суразмоўца**
соратник – саратнік, **паплечнік**

сочность – **сакавітасць**, сочнасць
спаянность – спаянасць, **злітаванасць, згуртаванасць**
специальный – спецыяльны, **адмысловы**
спешка – спешка, **паспех**
справиться – справіцца, **здолець**
срисованный – зрысаваны, **змаляваны**
ссутуленный – ссутулены, **згорблены**
статья – стацця, **артыкул, крыніца**
сходно – сходна, **падобна**
табак – **тытунь**, табака
таможенник – таможнік, **мытнік**
таракан – таракан, **прусак**
тёрка – **тарка**, цёрка
топор – тапор, **сякера**
точение – тачэнне, **вастрэнне**
транжир – транжыр, **марнатравец**
требуха – трыбуха, **вантробы**
трёхсторонний – **трохбаковы**, трохстаронні
троекратно – трохкратна, **трохразова**
тыкание – тыканне, **торганне**
убывание – убыванне, **памяншэнне**
угодник – угоднік, **ліслівец**
удобрение – удабрэнне, **угнаенне**
умащивать – умошчваць, **выбрукоўваць**
умыкание – умыканне, **выкраданне**
упоминание – упамінанне, **згадванне**
уразумевать – уразумяваць, **уцямліваць**
устроить – устроіць, **зрабіць**
уступать – уступаць, **саступаць, паддавацца**
утерпеть – уцярпець, **вытрываць**
учёт – учот, **улік**
фамилия – **прозвішча**, фамілія
филин – філін, **пугач**
финтить – **круціць**, фінціць
фистула – **свішч**, фістула
фистульный – **свішчавы**, фістульны
фланёр – фланёр, **шлында**
фланировать – фланіраваць, **шлындаць**

флюгер – флюгер, **вятранік**
форель – фарэль, **стронга**
фундамент – фундамент, **падмурак**
фундаментально – фундаментальна, **грунтоўна**
халатно – халатна, **нядбайна**
хватать – хватаць, **лапаць**
хлынуць – хлынуць, **лінуць**
хорошеть – **прыгажэць**, харашэць
хотение – хаценне, **жаданне**
хотеть – хацець, **жадаць**
хоть – хоць, **хаця**
хрустеть – хрусцець, **храбусцець**
хрястнуть – храснуць, **трэснуць**
царственность – царственнасць, **велічнасць**
чай – чай, **гарбата**
частушка – частушка, **прыпеўка**
чепчик – чэпчык, **каптурык**
черенковый – чаранковы, **тронкавы**
чертыхаться – чартыхацца, **лаяцца**
четырёхжаберные – чатырохжаберныя, **чатырохшчэ-лепныя**
четырёхслойный – чатырохслаёвы, **чатырохпластавы**
четырёхсторонний – **чатырохбаковы**, чатырохстаронні
чехонь – чахонь, **чэшка**
чикаться – **валаводзіцца**, чыкацца
чириканье – цырыканне, **цвырканне**
чистосердечие – чыстасардэчнасць, **шчырасць**
чистосортность – чыстасортнасць, **чыстагатунковасць**
чистота – **чысціня**, чыстата
членораздельно – членараздзельна, **выразна**
чтоб – штоб, **каб**
чуточку – **крышачку**, чутачку
чучело – **пудзіла**, чучала
шаг – **крок**, шаг
шагание – **крочанне**, шаганне
шагомер – **крокамер**, шагамер
шалаш – **будан**, шалаш
шампиньон – **пячурка**, шампіньён

шарканье – **шорганне**, шарканне
шевеление – **варушэнне**, шавяленне
шевельнуть – **варухнуць**, шавяльнуць
шерсть – шэрсць, **поўсць**, **воўна**
шпингалет – шпінгалет, **зашчапка**
шуба – шуба, **футра**
шубейка – шубка, **футэрка**
шубник – шубнік, **футэршчык**
шипение – шыпенне, **сыканне**
ширинка – **прарэх**, шырынка
шишка – шышка, **гуз**
шорох – шорах, **шоргат**

# АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫЯ ДАКУМЕНТЫ

**Аўтабіяграфія** – пішацца ад першай асобы, у ёй паведамляюцца афіцыйныя звесткі: год і месца нараджэння, сацыяльнае становішча, адзначаюцца важныя вехі жыццёвага шляху чалавека.

Структура напісання:

1) прозвішча, імя, імя па бацьку;
2) час і месца нараджэння;
3) заняткі бацькоў;
4) годы вучобы (службы ў войску);
5) асноўнае з працоўнай і грамадскай дзейнасці;
6) кароткія звесткі пра сваё сямейнае становішча;
7) дата і подпіс.

Узор 1

АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я, Леванец Іван Пятровіч, нарадзіўся 7 верасня 1971 года у вёсцы Грамыкі Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці. Бацька мой, Іван Тадэвушавіч, працуе будаўніком у калгасе, маці Таццяна Васільеўна, - настаўніцай.

У 1978 годзе я пайшоў ў Грамыкаўскую сярэднюю школы.

У 1989 годзе паступіў ў Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, які скончыў ў 1994 годзе па спецыяльнасці урач. Атрымаў накіраванне на працу ў Астравецкі раён Гродзенскай вобласці, дзе і працую зараз.

Жанаты, маю сына.

17 красавіка 2010 г. ___________ Леванец І.П.

(подпіс)

**Даведка** – дакумент, які змяшчае апісанне і пацверджанне тых ці іншых фактаў. Інфармацыйныя даведкі змяшчаюць службовыя звесткі, юрыдычныя даведкі сведчаць юрыдычны факт.

Структура напісання:

1) прозвішча, імя, імя па бацьку ў назоўным склоне;
2) звесткі, якія пацвярджаюць пэўны факт;
3) у якую ўстанову прадстаўляецца;
4) подпісы адказных асоб;
5) гербавая пячатка.

Узор 2

Назва ўстановы
Дата
Нумар

ДАВЕДКА

Сідаровіч Яўген Баляслававіч з'яўляецца студэнтам дзённага аддзялення першага курса медыка-псіхалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта.

Даведка выдадзена для падачы ў Кастрычніцкі райваенкамат горада Гродна.

Дэкан медыка-псіхалагічнага факультэта

______________

(подпіс)

(пячатка)

**Заява** – пісьмовая просьба адной асобы (ці групы асоб) ва ўстанову, арганізацыю альбо да службовай асобы.

Структура напісання:

1) зверху звычайна на ўвесь радок пішацца назва арганізацыі, установы ці пасады, прозвішча, імя, імя па бацьку (ініцыялы) службовай асобы;

2) з правага боку на трэцюю частку радка ў слупок пішацца прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто падае заяву; калі трэба, называецца яго пасада і адрас;

3) праз адзін-два радкі пасярэдзіне ліста пішацца слова **заява**.;

4) з чырвонага радка пачынаецца тэкст заявы;

5) калі да заявы прыкладаюцца якія-небудзь дакументы, то з чырвонага радка пішацца **Дадатак**: і з наступнага радка пад нумарамі пералічваюцца дакументы;

6) унізе злева ставяць дату (назва месяца звычайна пішацца словам), а справа – асабісты подпіс.

Узор 3

Галоўнаму ўрачу
УАЗ “Свіслацкая
ЦРБ”

Сідарчуку П.В.

Залужнага
Пятра
Сымонавіча,
урача-
афтальмолага

**заява.**

Прашу дазволіць мне чарговы адпачынак з 9 красавіка 2010 года.

28 чэрвеня 2000 г. Залужны П.С.

**Пратакол** – дакумент, які фіксуе ход абмеркаванняў пытанняў і прыняцце пастаноў на сходах, нарадах, канферэнцыях, пасяджэннях калегіяльных органаў.

Узор 4

ПРАТАКОЛ №9
пасяджэння кафедры замежных моў ад 18.10.2010 г.

Старшыня – Пятровіч Н.В.

Сакратар – Валошка М.А.

Прысутнічалі: Вялічка Д.З.,
Мазур К.С., Залежная П.Д.,
Кузняцоў С.Н., Лямчык М.В.

ПАРАДАК ДНЯ:

1. Аб правядзенні тыдня навукі.
2. Зацвярджэнне матэрыялаў да ДЭК.

1. СЛУХАЛІ:

Пятровіч Н.В. – ён паведаміў, што 26.04 па 30.04 на факультэце будзе праходзіць тыдзень навукі. 27.04 адбудзецца студэнцкая навуковая канферэнцыя. Неабходна правесці адпаведную работу са студэнтамі, каб яны падрыхтавалі навуковыя выступленні.

ВЫСТУПІЛІ:

Вялічка Д.З. – прапанаваў вылучыць на студэнцкую навуковую канферэнцыю самыя цікавыя курсавыя працы па прадмету.

Мазур К.С. – сказала, што ў яе ёсць грунтоўныя студэнцкія работы па асаблівасцях перакладу твораў пісьменнікаў.

Кузняцоў С.Н. – прапанаваў вылучыць на канферэнцыю некалькі секцый для работы па розных моўных накірунках.

ПАСТАНАВІЛІ:

1.1. Інфармацыю прыняць да ведама.

1.2. Выкладчыкам кафедры прадставіць па 3-5 студэнцкіх работ на канферэнцыю.

1.3. Ад кафедры замежных моў на канферэнцыню выдзеліць наступныя секцыі: 1) “Англійская мова”; 2) “Нямецкая мова”; 3) “Французская і іспанская мовы”.

2. СЛУХАЛІ:

Залежная П.Д. – яна адзначыла, што да дзяржаўнага экзамена падрыхтавана 64 пытанні (32 білеты). У білеты ўключаны пытанні па фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісу. Да кожнага білета падрыхтавана і практычная частка (41 сказ). Сказы падабраны з твораў мастацкай літаратуры.

ВЫСТУПІЛІ:

Лямчык М.В. – звярнула ўвагу на тое, што перад дзяржаўнымі экзаменамі членамі кафедры для студэнтаў трэцяга курса будуць прачытаны аглядныя лекцыі і праведзены кансультацыі па адпаведных раздзелах мовазнаўства. (Калі пасля выступлення дакладчыка ці ў ходзе абмеркавання задаюцца пытанні, іх трэба запісаць разам з адказамі.)

ПАСТАНАВІЛІ:

2.1. Зацвердзіць экзаменацыйныя матэрыялы да ДЭК для студэнтаў лячэбнага факультэта.

Старшыня __________________ Пятровіч Н.В.

Сакратар ___________________ Валошка М.А.

**Распіска** – дакумент, які сцвярджае, што ад установы або ад прыватнай асобы атрыманы рэчы, дакументы, грошы.

Структура напісання:

1) прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто атрымаў нешта;
2) ад каго атрымаў;
3) што іменна атрымаў;
4) на які тэрмін;
5) можа ўказвацца, для якіх мэт атрымаў;
6) злева знізу ставіцца дата, справа – асабісты подпіс.

Узор 5

РАСПІСКА

Я, Сахарэвіч Іван Іванавіч, стараста 2 групы педыятрычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, атрымаў у аддзеле ТСН мультымедыйны праектар.

Абавязуюся вярнуць праектар да 2 сакавіка 2010 года.

1 сакавіка 2010 г.
Сахарэвіч І.І.

**Акт** – дакумент, які складаецца некалькімі асобамі і пацвярджае ўстаноўлены факт, падзею, дзеянне.

Узор 6

АКТ
ацэнкі кошту квартэры

Адрас: г. Гродно, БЛК
дом № 52, квартэра № 17

08 лютага 2010 г.

Ацэначная камісія, утвораная рашэннем РВК Ленінскага раёна № 4 ад 05. 01. 2010

______________________________________________

(паказаць нумар і дату рашэння выканкама, прадпрыемства, аб'яднання, арганізацыі)

у складзе: старшыня Бялова З.С.
членаў: Кудраўцавай В.П.
Сідарчука Д.А.
Зялёніч С.Т.

правяла ацэнку кватэры, якая перадаецца ва ўласнасць грамадзяніна Ігнатовіча Пятра Іванавіча. Кватэра складаецца з 3 жылых пакояў, агульнай плошчай 72 кв.м.

1. Сапраўдны кошт кватэры згодна з прыкладзеным разлікам ________________ рублёў.

2. Каэфіцыент спажывецкіх якасцяў кватэры

______________________________________________

3. Індэкс якасці жылога асяроддзя

______________________________________________

4. Ацэначны кошт кватэры з улікам спажывецкіх якасцяў складае ____________ рублёў.

______________________________________________
_________ рублёў (пропісам)

Старшыня камісіі:
___________________________________Бялова З.С.
Члены камісіі:
___________________________________Кудраўцава В.П.

_______________________________________ Сідарчук Д.А.

_________________________________________Зялёніч С.Т.

Азнаёмлены: ______________________________________
(подпіс)

18 лютага 2010 г.

**Дагавор** – дамова дзвюх ці некалькіх асоб (арганізацый) пра вызначэнне, змяненне або спыненне якіх-небудзь правоў і абавязкаў.

Узор 7

**ПРАЦОЎНЫ ДАГАВОР**

“___” ____________2010 г.

___________________________________________
(назва населеннага пункта, дзе ўчынены дагавор)

У адпаведнасці з гарантаваным законам правам на працу гэты Дагавор учынены паміж

______________________________________________________

______________________________________________________
(назва прадпрыемства і яго месцазнаходжанне)

і

______________________________________________________

____________ (прозвішча, імя, імя па бацьку працоўнага, узрост, дзе пражывае,

______________________________________________________

____________ серыя, нумар пашпарта, кім выдадзены)

Правы і абавязкі працаўніка і прадпрыемства вынікаюць з Асноў заканадаўства аб працы, Кодэкса законаў аб працы, іншых заканадаўчых актаў аб працы, калектыўнага дагавору, а таксама ніжэйпададзенага пагаднення.

**I**

_______________________________________ распачынае

працу ___________________________________ (прозвішча, ініцыялы працоўнага) (дата, з якой

___________________________________ у якасці

_______________________________________ працоўны

павінен узяцца за працу (дакладная назва спецыяльнасці,

________________________________________________________________

________________ кваліфікацыі, пасады, рабочае месца – цэх, адзел)

**II**

Прадпрыемства абавязваецца:

а) даць (падрыхтаваць) паказанае ў дагаворы рабочае месца;

б) забяспечыць працай па ўстаноўленай у дагаворы спецыяльнасці, кваліфікацыі, пасадзе;

в) забяспечыць усе ўмовы для выканання працоўных заданняў, павышэння прадукцыйнасці працы;

г) клапаціцца пра ахову здароўя і працы;

д) забяспечваць магчымасць для творчага ўдзелу ў распрацоўцы і выкананні планаў і ў кіраванні прадпрыемствам;

е) садзейнічаць развіццю новых формаў арганізацыі працы;

ж) у адпаведнасці з абумоўленымі заданнямі і на падставе законапалажэнняў, а таксама калектыўнага дагавору________________________________________________
(назва, дата)

выплочваць зарабоную плату па

________________________________________________________________;
(тарыфная стаўка, аклад)

з) своечасова паведамляць пра ўсе мяркуемыя змены рабочага месца;

і) даваць:

1) штогадовы осноўны адпачынак__________________________ працоўных дзён;

2) дадатковыя адпачынкі (водпускі) у сувязі з умовамі працы пры наяўнасці адпаведных перадумоў.

**III**

________________________________________________________
(прозвішча, ініцыялы працоўнага)

абавязваецца:

а) выконваць працу па пэўнай спецыяльнасці, кваліфікацыі, пасадзе;

б) захоўваць правілы ўнутранага распарадку і дысцыпліну працы;

в) садзейнічаць развіццю таварыскага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі;

г) якасна і своечасова выконваць працоўныя заданні;

д) прадукцыйна выкарыстоўваць рабочы час і сродкі вытворчасці, эканомна выдаткоўваць сыравіну і матэрыялы;

е) захоўваць прадпісанне аб ахове здароўя і працы, а таксама аб супрацьпажарнай ахове;

ж) выконваць указанні адміністрацыі прадпрыемства;

з) паведамляць адміністрацыі прадпрыемства пра ўсе змены (перамена месца жыхарства, атрыманне жылля).

**IV**

У якасці дадатковых умоў прадугледжана (напрыклад, праца з няпоўным працоўным часам, забеспячэнне жылплошчай, месцам у дзіцячых установах) _______________________________________.

**V**

Змяненне паказаных у гэтым дагаворы ўмоў можа надысці толькі паводле ўзаемнай згоды бакоў дагавору ў пісьмовай форме. Умовы пагадненняў не павінны супярэчыць заканадаўству аб працы. Умовы, што пагаршаюць становішча рабочых і службоўцаў, з'яўляюцца несапраўднымі.

Гэты працоўны дагавор можа быць скасаваны толькі ў адпаведнасці з цяперашнім заканадаўствам.

**VI**

Пры падпісанні працоўнага дагавору працаўнік азнаёмлены з правіламі ўнутранага распарадку, правіламі аховы працы і г.д.

Гэты працоўны дагавор устапае ў сілу з

_______________________________________________________

і дзейнічае да _____________________________

_______________________________________________________

______________

_________________

(подпіс працаўніка) (подпіс кіраўніка)

**Даручэнне** – дакумент, па якім прадпрыемства ці асоба дае права іншай асобе выступаць ад іх імя, ажыццяўляюць якія-небудзь юрыдычныя дзеянні.

Узор 8

**ДАРУЧЭННЕ**

Горад Гродно дзве тысячы __________год.

Я, гр. ____________________________________________,

які пражывае ____________________________________,

гэтым даручэннем упаўнаважваю гр. ________________,

які пражывае ____________________________________,

распараджацца прыналежнай мне на падставе тэхнічнага пашпарта, выдадзенага Дзяржаўтаіспекцыяй

___________________________________________________

раёна, горада ___________________________ за № __________ ад “_________” 2010 г.

аўтамашынай (матацыклам) маркі ________________________________________ рухавік

№ ________________________________________________________________

шасі № ____________, дзяржаўны нумарны знак ________________________________,

якая стаіць _____________________________________ на ўліку ў ДАІ ______________,

__________________________ раёна, горада ______________________

сачыць за тэхнічным станам аўтамашыны (матацыкла), быць маім прадстаўніком у ДАІ, распісвацца за мяне і выконваць усе дзеянні, звязаныя з выкананнем гэтага даручэння.

Даручэнне выдадзена тэрмінам на ______________ “______” ______________2010 г.

Гэтае даручэнне засведчана мною ___________________, дзяржаўным натарыусам Першай Гродзенскай абласной дзяржаўнай натарыяльнай канторы.

Даручэнне падпісана гр. _____________________________ у маёй прысутнасці. Асоба ўстаноўлена, дзеяздольнасць праверана.

Зарэгістравана ў рэестры № __________

Спагнана дзяржаўнай пошліны ________

Дзяржаўны натарыус _________________

# МЕДЫЦЫНСКАЯ ДАКУМЕНТАЦЫЯ

Узор 1.

МЕДЫЦЫНСКАЯ КАРТА № ____
стацыянарнага хворага

Дата і час паступлення ______________________________
Дата і час выпіскі __________________________________
Аддзяленне ______________________ палата № ________
Пераведзены ў аддзяленне ____________________________
Праведзена койка-дзён ______________________________
Віды транспарціроўкі: на каталцы, на крэсле, можа ісці (падкрэсліць)
Група крыві _____________ Рэзус-прыналежнасць _________
Дадатковае ўздзеянне лекаў (непераноснасць) _____________
________________________________________________
(назва прэпарата, характар дадатковага дзеяння)
Прозвішча, імя, імя па бацьку __________________________
________________________________________________
2. Пол _________________
3 Узрост _____(поўных гадоў, для дзяцей: да года – месяцаў, да 1 месяца – дзён)
4. Сталае месца жыхарства: горад, вёска (падкрэсліць) ____________________________________________________________
________________________________________
(напісаць адрас, пазначыць для прыехаўшых – вобласць, раён, нас.пункт, адрас сваякоў і № тэл.)
________________________________________________
5. Месца працы, прафесія ці пасада _____________________
________________________________________________
(для навучэнцаў – месца вучобы; для дзяцей – назва дзіцячай установы, школы; для інвалідаў – від і група)
____________________________________________________________
________________________________________
інваліднасці, ІАВ, так, не (падкрэсліць)

6. Кім накіраваны хворы ______________________________
(назва лячэбнай установы)
7. Дастаўлены ў стацыянар па экстраных паказаннях: **так**, **не** праз _____ гадзін пасля пачатку захворвання, атрымання траўмы; шпіталізаваны ў планавым парадку (падкрэсліць).
8. Дыягназ установы, якая накіравала ___________________
_________________________________________________
9. Дыягназ пры паступленні ____________________________
10. Дыягназ клінічны ___________ Дата ўстанаўлення ______
________________________ ________________________
________________________ ________________________
________________________ ________________________
11. Дыягназ заключны клінічны _________________________
а) асноўны:
_________________________________________________
_________________________________________________
б) ускладненне асноўнага:______________________________
_________________________________________________
_________________________________________________
в) адначасовы: _____________________________________
_________________________________________________
_________________________________________________
12. Шпіталізаваны ў дадзеным годзе з прычыны дадзенага захворвання: упершыню, другі раз (падкрэсліць), усяго _______ разоў.
13. Хірургічныя аперацыі, метады абязбольвання і пасляаперацыйныя ўскладненні.

| Назва аперацыі | Дата, час | Метад абязбольвання | Ускладненні |
|---|---|---|---|
| 1. | | | |
| 2. | | | |
| 3. | | | |

Аперыраваў ____________________
14. Іншыя віды лячэння ______________________________

_____________________________________________

(указаць)

15. Адзнака аб выдачы лістка непрацаздольнасці

№_______з_______па_______

№________з________па_________

№_______з_______па_______

№________з________па_________

16. Вынік захворвання: выпісаны – з ачуньваннем, з паляпшэннем, без перамен, з пагаршэннем; пераведзены ў іншую ўстанову _________________________________

(назва лячэбнай установы)

Памёр у прыёмным аддзяленні, памерла цяжарная да 28 тыдняў цяжарнасці, памерла пасля 28 тыдняў цяжарнасці, парадзіха, нарадзіха.

17. Працаздольнасць адноўлена поўнасцю, зніжана, часова страчана, трывала страчана ў сувязі з дадзеным захворваннем, з іншымі прычынамі (падкрэсліць).

18. Для тых, хто паступіў на экспертызу – заключэнне _______

_____________________________________________

19. Асаблівыя адзнакі _____________________________

_____________________________________________

_____________________________________________

_____________________________________________

Урач, які лечыць_______ (подпіс)

Заг. аддзялення _________ (подпіс)

Узор 2

МЕДЫЦЫНСКАЯ КАРТА ДЗІЦЯЦІ
(для школы, школы-інтэрната, дзіцячага дома, дзіцячага садка)

Клас – група (запаўняецца штогод) Алергія (вакцынальная, лекавая, алергічныя захворванні) _______________
Прозвішча, імя, імя па бацьку дзіцяці ______________________
______________ Дата нараджэння ________________пол: м/ж
Адрас _____________________________________________________
_____________________________________________________
Тэлефон________паліклініка№________тэлефон __________
Звесткі пра бацькоў:

| | Год нарадж. | Адукацыя | Месца працы | Тэлефон |
|---|---|---|---|---|
| Маці | | | | |
| Бацька | | | | |

а) жыллёва-бытавыя ўмовы ______________________________
б) сямейны анамнез (захворванні) _________________________

Пазашкольныя заняткі

спорт (так, не, від спорта) ______________________________
замежная мова (так, не) ________ музыка (так, не) ________
іншыя заняткі _________________________________________

Перанесеныя захворванні

| | Дата | | Дата |
|---|---|---|---|
| Адзёр | | Чырвонка | |
| Кохлік | | Крываўка | |
| Шкарлятына | | Брушны тыф | |
| Дыфцярык | | Сухоты | |
| Ветраная воспа | | Раматус | |
| Інфекцыйны паратыт | | Інфекцыйны гепатыт | |

## Звесткі пра шпіталізацыю, санаторнае лячэнне

| Дата | Дыягназ | Дата | Дыягназ |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |

## Траўмы, аперацыі

| Дата | Дыягназ | Дата | Дыягназ |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |

## Пропуск па хваробе

| Дата | | Дыягназ | Дата | | Дыягназ | Дата | | Дыягназ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ад | да | | а<br>д | д<br>а | | ад | д<br>а | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |

Звесткі аб дыспансерным назіранні
(для асоб, якія знаходзяцца ў паліклініцы на дыспансерным назіранні)

| Дыяг-наз | Дата прыняц-ця на ўлік | Дата зняцця з уліку, прычы-на | Кантроль наведванняў спецыяліста | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | прызначана | з'явіўся | прызначана | з'явіўся | прызначана | з'явіўся |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |

| Дата | Даныя агляду | Рэкамендацыі |
|---|---|---|
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |

Даныя паглыбленага медыцынскага абследавання

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.Дата абследавання | | | | | | | | |
| 2. Узрост дзіцяці | | | | | | | | |
| 3. Клас, група | | | | | | | | |
| 4. Рост | | | | | | | | |
| 5. Вага | | | | | | | | |
| 6.Суб'ектыўныя скаргі | | | | | | | | |
| 7. Агляды: педыятрам | | | | | | | | |
| 8. Рэўматолагам | | | | | | | | |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9. Артэрыяльны ціск | | | | | | | | |
| 10. Артапедам (хірург) | | | | | | | | |
| 11. Афтальмолагам | | | | | | | | |
| 12. Оталарынголагам | | | | | | | | |
| 13. Неўрапатолагам | | | | | | | | |
| 14. Дэрматолагам | | | | | | | | |
| 15. Лагапедам | | | | | | | | |
| 16. Стаматолагам | | | | | | | | |
| 17. Ацэнка фізічнага развіцця | | | | | | | | |
| 18. Заключэнне аб стане здароўя | | | | | | | | |
| 19. Група для заняткаў фізкультурай | | | | | | | | |
| 20. Рэкамендацыі | | | | | | | | |

Подпісы ўрачоў
(педыятр, спецыялісты)

Агляд перад прафілактычнымі прышчэпкамі

| Дата | Здаровы | Прышчэпка дазволена (якая) | Хворы (дыягназ) | Мед. адвод да ________ | Урач |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |

Прафілактычныя прышчэпкі

| | Вакцынацыя | Рэвакцынацыя |
|---|---|---|

